© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
№ 45 (205)
9 лістапада 1994 г.
Кошт — 40 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **2 ЛІСТАПАДА** святкаваліся Дзяды. У храмах адбыліся набажэнствы, а ў гарадах і мястэчках нашай краіны — мітынгі, прысвечаныя памяці нашых продкаў.

○ ***АМАЛЬ 20 ТЫСЯЧ БЕЛАРУСАЎ ЖЫВЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ МАЛДОВА.*** *Нядаўна ў гэтай краіне ўзнікла грамадская арганізацыя — «Беларуская грамада». Асноўная мэта «Беларускай грамады» — згуртаваць беларусаў, дапамагчы захаваць у замежжы нацыянальную самасвядомасць, родную мову, нацыянальныя звычаі і традыцыі, падтрымліваць сувязь з Радзімай.*

○ **СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ ПРЫНЯЎ** прадстаўнікоў расійскай і амерыканскай аэракасмічнай прамысловасці. На сустрэчы абмеркаваны ход рэалізацыі Дзяржаўнай расійска - беларускай праграмы па стварэнні самалёта агульнага прызначэння «Беларусь». Дасягнута дамоўленасць аб неабходнасці стварэння Транснацыянальнай тэхналагічнай карпарацыі па рэалізацыі праграмы.

○ ***3—6 ЛІСТАПАДА Ў МЕНСКУ ПРАЙШОЎ ЧАЦВЁРТЫ ФЕСТЫВАЛЬ «АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ КАПЭЛЫ».*** *Ягонай тэмай у гэтым годзе быў беларускі музычны рамантызм.*

○ **У МЕНСКУ ПРАХОДЗІЦЬ КІНАФЕСТЫВАЛЬ «ЛІСТАПАД – 94»**, на якім гледачам прапанаваны лепшыя стужкі знакамітых рэжысёраў апошняга часу. На жаль, замежныя фільмы дубліраваны не на нашу дзяржаўную мову.

○ ***ГАРАДЗЕНСКІЯ НАСТАЎНІКІ ЗБІРАЮЦЬ ПОДПІСЫ*** *пад зваротам да Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, у якім просяць падтрымаць працэс беларусізацыі сярэдняй адукацыі. Настаўнікі спадзяюцца, што Прэзідэнт да іх зварота аднясецца станоўча.*

***НЕ ПАКЛАДАЙМА РУК***

## ПЕРАВУЧВАЦЬ ДЗІЦЯ НА ЧУЖУЮ МОВУ НЕ ЗБІРАЮСЯ

Выпісваю «Наша слова» больш за два гады і не расчаравалася ніводным нумарам. Вялікі дзякуй вам за штотыднёвы куточак беларускасці ў нашым, пакуль яшчэ далёка не беларускім грамадстве.

Сваім пісьмом я адгукаюся на праблему беларускамоўных дзяцей, узнятую ў артыкуле «У нас свой апартэід». У мяне, як і ў паважанай Таццяны Ермаковіч, расце дачушка, якую я з нараджэння вучу, дакладней, размаўляю з ёй па-беларуску. Але, ведаючы, што беларускамоўныя ў сучасным грамадстве — гэта «белыя вароны» сярод «савецкамоўных» людзей, я амаль паралельна вучу дачку і па-расійску, дадаючы пасля беларускага слова — расійскае, але раблю акцэнт на беларускім. Таму я таксама баюся, як будзе развівацца маё дзіця. Дзе ні хаджу з дачкой, нідзе не магу сустрэць беларускамоўных дзетак. Адна надзея, што магчымасць трапіць у беларускамоўнае асяроддзе з'явіцца ў садку. Але, як даведалася з вашай газеты, і гэта вялікая праблема. Ды, нягледзячы на ўсе цяжкасці, адступаць і перавучваць дзіця на чужую мову не збіраюся, якія б прамовы ні «выдаваў» А.Лукашэнка, бо такія «адрачэнцы» прыходзяць і знікаюць, а наша зямля, Бацькаўшчына, мова — застаюцца, яны вечныя.

А ўвогуле, хацелася б, каб такія бацькі аб'ядналіся, стварылі нейкі камітэт, патрабавалі б, напрыклад, хаця б у кожным раёне ствараць цалкам беларускамоўныя садкі ці хаця б групы. Але ўсё-такі, я спадзяюся, што маёй Алесьцы знойдзецца беларускае асяроддзе ў адным з чатырох садкоў, што месяцца побач з нашым домам (Сурганава, 53).

Не ведаю, ці чытае А.Лукашэнка ці хтосьці з яго адміністрацыі «Наша слова», але хачу праз вашу газету звярнуцца да Прэзідэнта з просьбаю, нават патрабаваннем — забяспечыць маёй дачушцы і ўсім іншым беларускамоўным дзецям права выхавання ў дашкольных дзіцячых установах на **роднай дзяржаўнай беларускай** мове; адпаведна — атрыманне беларускамоўнай адукацыі; забяспечыць права карыстання ў будучым беларускай мовай у грамадскіх арганізацыях і ўстановах і права на аўдыёвізуальную беларускамоўную інфармацыю.

Паважаная рэдакцыя, вялікае пажаданне да вас прадоўжыць пачатую тэму, хацелася б прачытаць меркаванне педагогаў, выхавацеляў на праблему беларускамоўных дзяцей і іх бацькоў. Нам вельмі патрэбны іхнія парады ды падтрымка ў агульнай справе адраджэння беларускай мовы.

**Ала ШЫШОНАК,**
**інструктар-метадыст**
**па фізічнай культуры.**

*БЕЛАРУСКІ КІНЕМАТОГРАФ І «ВЯЛІКАЯ МЫШ З МІНСКУ»* *Стар. 2—3.*

*ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ* *Стар. 5.*

*СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ.* *Стар. 7.*

***РЭХА***

## КАНТАКТЫ З РАСІЙСКАЙ АРМІЯЙ НЕБЯСПЕЧНЫЯ ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

У Маскве забілі чарговага журналіста. На гэты раз ахвяраю злачынцаў стаў Дзмітрый Холадаў — карэспандэнт газеты «Московский комсомолец» па вайсковых справах. Яму падсунулі міну з пластыкавым выбуховым рэчывам. У апошнія месяцы гэты журналіст займаўся фактамі незаконнага продажу расійскімі вайскоўцамі зброі, а таксама магчымасцямі падрыхтоўкі наёмных забойцаў, што выкарыстоўваюцца мафіяй, у спецыялізаваным армейскім цэнтры. Саюз журналістаў Расіі заклікаў усю расійскую прэсу аб'яднацца ў акцыі пратэсту супраць планамернага наступу цёмных сіл на свабоду слова. Беларускія дэмакратычныя журналісты выказваюць глыбокае спачуванне сваім расійскім братам і калегам. Абароненасць журналістаў і свабода слова — неад'емная частка свабоды народа!

**Ул.Ас.**

***ДЗЕ І ШТО?***

* * *

*18 кастрычніка г.г. адбылася сесія Маладзечанскага гарадскога Савета.*

*Сярод іншых разгледжана пытанне «Аб выкананні ў горадзе Закона аб мовах». У прынятай пастанове адзначаны прадпрыемствы і ўстановы, у якіх гэтаму пытанню надаецца належная ўвага, намечаны далейшыя шляхі паляпшэння і ўдасканалення дзейнасці органаў мясцовай улады, грамадскіх арганізацый па вяртанню роднай мовы ў паўсядзённае жыццё гараджан.*

*Належнае месца ў гэтай рабоце адводзіцца арганізацыям Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.*

***Наш карэспандэнт.***

## ПАМЯЦІ ГЕРОЯЎ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

Утвораны Арганізацыйны камітэт па сьвяткаваньню 74-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну. Аргкамітэт заснавалі Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне», Мартыролаг Беларусі, Творчая суполка «Пагоня», Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Беларускае краязнаўчае таварыства, Згуртаваньне Беларускае Шляхты, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская Хрысьціянска-Дэмакратычная Злучнасьць, Культурны асяродак «Беларусь» г.Алматы, Беларускі фонд імя Л.Сапегі, Асацыяцыя вольных сродкаў масавай інфармацыі.

Старшынёй Аргкамітэта абраны прафесар Мікола Савіцкі. На сваім першым пасяджэнні Аргкамітэт пастанавіў працягнуць вывучэньне гісторыі Слуцкага збройнага чыну, лёсу ягоных кіраўнікоў і жаўнераў; сьвяточныя мерапрыемствы і ўшанаваньне памяці герояў паўстаньня правесьці ва ўсіх найбольш важных паселішчах краіны, звязаных са збройным змаганьнем за Беларускую Народную Рэспубліку. Аргкамітэт заклікаў грамадства Беларусі шырока адзначыць чарговыя ўгодкі Слуцкага збройнага чыну.

Н.К.

***Апошнім часам актывізаваліся ворагі беларушчыны. Хоць бы і той жа «Конгресс народов Белоруссии».***




### ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ «НАШАГА СЛОВА»!

Каб чытаць «Наша слова» ў наступным годзе, паклапаціцца пра гэта трэба ўжо сёння. Да канца падпісной кампаніі засталося ўсяго толькі два тыдні.

Кошт падпіскі
на адзін месяц: 175 рублёў;
на тры месяцы — 525 рублёў;
на паўгоддзе — 1050 рублёў.
Наш падпісны індэкс 63865.

Не пашкадуйце грошай і выпішыце «Наша слова» таксама сваім дзецям, сваякам і знаёмым. Для іх гэта будзе прыемная нечаканасць. Падпісацца на «Наша слова» можна ў любым паштовым аддзяленні.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

# ВАШУ ГАЗЕТУ ЧАКАЮ З ХВАЛЯВАННЕМ, АЛЕ ЯЕ НЕ ЗАЎСЁДЫ ПРЫНОСЯЦЬ

*Добры дзень, руплівая рэдакцыя газеты «Наша слова».*

*Звартаецца да вас настаўніца Веляміцкай СШ Мамайка Надзея Міхайлаўна. Вельмі ўдзячна вам за змястоўную надзённую газету, якую я чакаю заўсёды з хваляваннем, з радасцю. Але па віне раённага вузла сувязі мне часта не прыносяць яе. Не было 13-га нумара, зараз не прынеслі 39-ы. У школе з дзецьмі выпускаем насценныя газеты «Спадчына» і «Наша мова». Рэдкалегія заўсёды карыстаецца матэрыяламі, якія вы друкуеце. Апошні нумар выпусцілі з затрымкай, бо не прыйшло «Наша слова» з матэрыялам пра беларускі народны каляндар. Знайшлі, праўда, у другой газеце, але ж... Колькі часу дарма патрачана. Я званіла ў Столін на размеркавальны пункт. Першы раз дзяжурная адказала: «Не пришла, значит не было совсем» і палажыла трубку. Тады я пазваніла ў другую вёску (балазе ведала, што выпісвае «Наша слова» настаўнік Раманенка Л.К.). Ён паведаміў, што вашу газету атрымаў, і нават расказаў па тэлефоне пра змест асобных матэрыялаў. Другі раз званіла ў Столін. Дзяжурная сказала, што будзем шукаць вам газету. На гэтым усё скончылася. Званіла я і да галоўнага раённага начальніка аддзела сувязі, якая адказала, што трэба пазваніць да начальніка сарціроўкі. Я ўсё званю, а газеты няма. Прашу вас дапамагчы мне атрымоўваць вашу газету.*

*Да ўсяго, я падпісалася на «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі» ў кніжным магазіне Давыд-Гарадка. Колькі ні пытаюся пра кнігу, а адказ адзін: «Нам не паступала книга». Дык ці паступіць? Калі і паступіць, то, відаць, размяркуюць яе яшчэ ў раёне. Да Гарадка, мусіць, не дойдзе. Як быць? Ці ёсць адказны за тое, каб падпісчык мог атрымаць выданні, на якія ён падпісаўся. Вось і зараз патрачана колькі часу. А ці будзе карысць? Вельмі спадзяюся на вашу дапамогу.*

*З павагай да вас*

**МАМАЙКА**
**Надзея Міхайлаўна.**

**АД РЭДАКЦЫІ.**

Шаноўная Надзея Міхайлаўна, шчыра дзякуем за ўвагу да «Нашага слова». 39-ы нумар «НС», які Вы не атрымалі, высылаем Вам па пошце. З праблемамі, з якімі сустрэліся Вы, пастараемся разабрацца праз Міністэрства сувязі і інфарматыкі. Жадаем Вам і Вашым вучням поспехаў у школьным жыцці і ўсяго самага найлепшага.

## З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

❑ **З 4 па 6 кастрычніка** факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта з нагоды свайго пяцідзесяцігоддзя правёў Рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю «Беларуская інфармацыйная прастора: сучасны стан і перспектывы». Працавалі тры секцыі: «Праблемы стылістыкі і культуры мовы СМІ», «Нацыянальнае тэлебачанне і радыёвяшчанне: сучасная мадэль развіцця», «Дынаміка развіцця беларускага друку». На секцыйных пасяджэннях удзельнікі юбілейнай канферэнцыі абмяркоўвалі праблемы, узнятыя ў дакладах прафесараў факультэта А.Наркевіча, Я.Радкевіча, Е.Бондаравай, І.Сачанкі, вядучых дацэнтаў Н.Фральцовай, Т.Кірылавай, А.Плаўнік і інш.

На канферэнцыю былі запрошаны навукоўцы і практыкі, рэдактары і карэспандэнты рэспублікі і замежжа.

❑ ***5—7 кастрычніка** філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта пад эгідай Міжнароднай асацыяцыі выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры правордзіў міжнародную канферэнцыю «Нацыянальна-культурны кампанент у тэксце і ў мове». На канферэнцыі працавалі лінгвістычная, лінгвакультуралагічная, метадычная і літаратуразнаўчая секцыі. За круглым сталом «Рускі тэкст, арыентаваны на беларускую культуру; беларускі тэкст, арыентаваны на беларускую і іншыя нацыянальныя культуры» ўдзельнікі канферэнцыі абмяркоўвалі надзённыя праблемы ўзаемадзеяння дзвюх моў. На канферэнцыю былі запрошаны вядомыя навукоўцы з краін СНД, далёкага замежжа.*

❑ **3—6 кастрычніка** ў г.Гомелі адбылася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Роля сям'і і дашкольных установаў у развіцці асобы дзіцяці ў святле ідэй Л.С.Выгоцкага і яго паслядоўнікаў». Мэта канферэнцыі — прыцягнуць увагу грамадства да сям'і як галоўнага інстытута выхавання дзіцяці, вызначыць шляхі і сродкі ўмацавання партнёрскіх адносін паміж дзіцячым садам, сям'ёй і школай.

У абмеркаванні тэарэтычных і прыкладных праблем узялі ўдзел вядучыя навукоўцы, арганізатары адукацыі; што займаюцца праблемамі дзяцінства, з Даніі, ЗША, Швецыі, Швейцарыі, Італіі, Канады, Украіны, Літвы і Беларусі.

На канферэнцыю былі запрошаны таксама прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, урада, розных міністэрстваў і ведамстваў.

**У Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі.**

❑ ***3—15 кастрычніка** факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў пазашкольных устаноў і выхавання правёў курсы для супрацоўнікаў абласных і гарадскіх упраўленняў адукацыі, якія кіруюць выхаваўчай работай.*

❑ **3—29 кастрычніка** факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў вышэйшай школы правёў курсы для метадыстаў ІУН, навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання. Разгледзіліся актуальныя пытанні пабудовы вучэбна-метадычнага комплексу, праведзены аналіз вучэбнай кнігі, структуры падручніка і вучэбнага дапаможніка, відаў вучэбных выданняў, акрэслены напрамкі арганізацыйна-метадычнай работы.

❑ ***3—29 кастрычніка** факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў вышэйшай школы правёў курсы для выкладчыкаў ВНУ па тэме «Псіхолага-педагагічныя аспекты навучальнага працэсу ў вышэйшай навучальнай установе». Разглядаліся пытанні стандартызацыі і стандартаў адукацыі, псіхалагічных асаблівасцей фарміравання мастацтва навучання, псіхалагічныя крытэрыі ацэнкі працы выкладчыка ВНУ, асэнсоўваліся сучасныя педагагічныя тэхналогіі.*

❑ **3—29 кастрычніка** факультэт кіраўнікоў і спецыялістаў дзіцячых дашкольных устаноў правёў курсы для загадчыкаў малакамплектных дашкольных устаноў па тэме «Псіхалагічныя праблемы выхавання і навучання дзяцей».

❑ ***3—29 кастрычніка** факультэт педагогаў-дэфектолагаў правёў курсы для настаўнікаў лячэбнай фізкультуры санаторных школ-інтэрнатаў.*

❑ **З 3 кастрычніка па 5 лістапада** факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў школ арганізаваў курсы для намеснікаў дырэктараў сярэдніх школ.

❑ ***10—29 кастрычніка** факультэт кіруючых работнікаў і спецыялістаў вышэйшай школы правёў курсы для загадчыкаў кафедраў ВНУ. Асноўная ўвага ўдзялялася метадалагічным, арганізацыйна-метадычным, навуковым пытанням аптымальнага забеспячэння падрыхтоўкі сучаснага спецыяліста.*

❑ **З 10 кастрычніка па 5 лістапада** факультэт кіраўнікоў і спецыялістаў дзіцячых дашкольных устаноў правёў курсы загадчыкаў і метадыстаў дашкольных устаноў «Псіхолага-педагагічныя праблемы ўзаемадзеяння сада і сям'і ва ўмовах гуманізацыі».

❑ ***13 кастрычніка** прайшло пасяджэнне Каардынацыйнага савета па навуковых даследаваннях у галіне адукацыі. Разглядалася пытанне эфектыўнасці навуковых даследаванняў і іх укаранення ў навуковы працэс.*

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# БЕЛАРУСКАЕ КІНО:

*(З нагоды 70-годдзя)*

*Беларускае кіно паўстала 70 гадоў таму, у час, калі кінематограф ужо перастаў быць «вялікім нямым». Якой мовай гаварыў ён на працягу гэтых сямі дзесяцігоддзяў і якой гаворыць цяпер? Што стала тэмай новых фільмаў новай Беларусі?*

Каб даведацца аб гэтым, я звярнуўся да спісу фільмаў, якія атрымалі пасведчанні Дзяржрэгістру на права паказу ў кінатэатрах Беларусі. Паводле рубрыкі «В Госрегистре Республики Беларусь» газеты «Кинонеделя Минска» (як бачым — усё па-руску!) за апошнія месяцы на экраны выйшлі наступныя стужкі, знятыя ў нашай краіне:

*«Хэппи энд»* — студыя «Грамада».

Сцэнарый В.Токаравай, рэжысёры В.Гаршко, У.Арлоў.

«Калі існуе загадкавая «русская душа», дык яна робіцца зусім невытлумачальнай, спалучыўшыся з непрадказальным жаночым характарам. Выдатны знаўца псіхалогіі сваіх сучасніц, вядомая пісьменніца знайшла свой ключ да гэтай загадкі», — сказана ў анатацыі на фільм.

*«Вальсирующие наверняка»* — вытворчасць ТАА ВКФ «СПСЭ» (Менск) і кінакампаніі «Максим» (Масква).

Сцэнарыст і рэжысёр М.Варанкоў.

Дэтэктыў.

*«Огненный стрелок»* — Сцэнарый В.Казько, рэжысёр В.Тураў.

Фільм аб людзях беларускай вёскі, якія пацярпелі ад Чарнобыля.

*«Аз воздам»* — студыя «Беларусьфільм».

Рэжысёры — М.Касымава, В.Сцяпанаў, В.Шадурскі.

Фільм аб лёсе сярэдня вечнага беларускага філасафа і асветніка Казіміра Лышчынскага.

*«Свободная зона»* — студыі «Беларусьфільм» і «Вертикаль».

Сцэнарый А.Зайцава, рэжысёр Д.Зайцаў.

Фільм аб выратаванні савецкага навукова-даследчага карабля.

*«Привет от тёзки»* — студыя Уладзіміра Галынскага.

Прадзюсер і выканаўца галоўнай ролі — У.Галынскі.

Фільм аб прыгодах аўтамабільнага злодзея-рэцыдывіста.

*«Роман императора»* — вытворчасць МП «Синемарек» і СП «Акарына».

Сцэнарый М.Пушкінай і Д.Ніжнякоўскай, рэжысёр Д.Ніжнякоўская.

Чатырохсерыйны(!) фільм аб каханні расійскага імператара Аляксандра II і княжны Кацярыны Далгарукай.

*«Дьявольская карусель»* — студыі «Фобос-С» (Менск) і «МАМ» (Манголія).

Сцэнарый В.Конрада (Швецыя), рэжысёр Нік.Грэбо.

Фільм аб прыгодах і каханні расійскага салдата, які вяртаецца дадому з афганскага палону.

Як аказалася, мовай ніводнага з іх не стала беларуская. Што да нацыянальнай тэматыкі, дык яна сустракаецца выключна ў работах дзяржаўнай студыі «Беларусьфільм».

Каб даведацца, што стала прычынай гэтакай моўнай і сюжэтнай арыентацыі знятых у нашай краіне фільмаў, я спаткаўся з асобай, якая аб вартасцях айчыннай кінапрадукцыі ведае, бадай, лепш за яе стваральнікаў і крытыкаў. Гэта — Таісія Гурко, галоўны спецыяліст камерцыйнага аддзела студыі «Беларусьфільм», чалавек, які прадае беларускія фільмы за мяжу.

**— Ці існавала ў часы СССР беларускае кіно — беларускае паводле формы і зместу, разлічанае не на савецкага, а на беларускага гледача?**

— Беларускае кіно было. На пачатку яго стаялі такія выдатныя рэжысёры, як Корш-Саблін ці Тарыч. Ёсць таленты і цяпер: Тураў, Дабралюбаў, Пташук ды іншыя. Беларускае кіно існавала, і яго з задавальненнем глядзелі не толькі ў нас, але і па ўсіх рэспубліках тагачаснага СССР, нават у Расіі з такімі яе гігантамі, як «Масфільм» і «Ленфільм». «Беларусьфільм» стаяў на адным узроўні з гэтымі кінастудыямі. І гэтую сваю папулярнасць наша кінастудыя захоўвае і цяпер.

**— Ці не было прычынай гэтай агульнасаюзнай папулярнасці тое, што беларускія фільмы, у адрозненне ад, напрыклад, грузінскіх, былі прызначаны не для беларусаў, а для рускамоўных савецкіх людзей, аднолькавых і ў Маскве, і ў Менску?**

— Канешне. У адрозненне ад той жа грузінскай кінематаграфіі беларускае кіно было моўна і духоўна блізкім савецкаму гледачу.



*Мастацкі фільм рэжысёра Міхаіла Пташука «Кооператив «Политбюро», створаны на «Беларусьфільме» студыяй «НС», атрымаў галоўную ўзнагароду «Залаты Віцязь» трэцяга міжнароднага фестывалю славянскіх фільмаў у Цірасполі.*

*На здымку: Кінакрытык **Ніна Фральцова**, рэжысёр **Міхаіл Пташук** (у цэнтры) і дырэктар кінастудыі «Беларусьфільм» **Юрый Цвяткоў** з прызам «Залаты Віцязь».*

студыя «Беларусьфільм».

Сцэнарый М.Шэлехава, рэжысёр М.Князеў.

Гісторыя хлопчыка-птушкі, які, абараняючы прыроду, перамагае жорсткасць.

*«Роман «а la russo»* — кампанія «Интербел» (Менск).

Сцэнарый Т.Кірылавай, рэжысёр А.Брэнч.

Апавяданне аб каханні расійскай актрысы і італьянскага мастака, якое мела трагічны фінал.

*«Чёрный аист»* — студыя «Беларусьфільм».

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# БЫЛО? ЁСЦЬ? БУДЗЕ?

**— Значыць, савецкаму... Ну, а цяпер, па атрыманні нашай краінай незалежнасці, змяніўся змест твораў беларускіх кінематаграфістаў? Ці не ствярае гэта перашкод распаўсюджванню іх фільмаў за мяжой?**

— Па-першае, трэба ўдакладніць паняцце замежжа. Бо амаль усе фільмы, што здымаюцца ў межах былога Саюза, распаўсюджваюцца ў гэтых жа рэгіёнах. І найбольшым для іх рынкам з'яўляецца Расія. На гэты — «савецкі» — рынак арыентуюцца ўсе вытворцы. І менавіта ён кшталтуе сюжэтную (ды і моўную) арыентацыю новых стужак, што здымаюцца ў былым СССР, у тым ліку і ў нас. А сённяшнія беларускія фільмы не маюць нейкіх асаблівасцей, якія б перашкаджалі ўспрыняццю іх расійскімі гледачамі. Перашкоды на шляху нашых фільмаў у Расію і іх папулярнасці там маюць не моўны ці палітычны, а выключна эканамічны характар. Гэта — высокія экспартныя тарыфы, і толькі.

**— «Беларусьфільм» як дзяржаўная кінастудыя, большую ўвагу надае фільмам беларускай тэматыкі, мова якіх — таксама беларуская?..**

— Бадай што так. Сярод такіх фільмаў — «Маці ўрагану» паводле Караткевіча, «Шляхціц Завальня» — экранізацыя твора Баршчэўскага. Абмяркоўваецца магчымасць здымак фільма аб Вітаўце Вялікім...

**— Затое фільмы, якія здымаюць прыватныя кінастудыі, маюць іншую скіраванасць. Ці не з'яўляецца гэта працягам традыцый савецкага, менавіта савецкага кіно?**

— Савецкага? Але ж Саюза ўжо няма...

Так скончылася наша гутарка. Але, як падалося, адказваючы на апошняе пытанне, мая суразмоўца была не зусім шчырай. Кіно Беларусі так і не стала беларускім, захаваўшы сваю савецкасць — расійскую мову і сюжэты, дасутпныя разуменню масавага спажыўца выключна ад Брэста да Курыл і ад Мурманска да Паміра. Так і паўстаюць творы кшталту нядаўна выпушчанай «Беларусьфільмам» стужкі «У попа была собака...», якая мае яшчэ адну назву — «Российский Монте-Кристо» і расказвае аб здрадзе і помсце ў асяроддзі кааператараў. Гэты ж фільм, дарэчы, стаў рэжысёрскім дэбютам Няўзорава — акцёра, вядомага ролямі ў фільмах з адметнымі назвамі «Россия молодая» і «Русь изначальная».

Ці можа быць інакш? Наўрад, бо ўсе беларускія фільмы незалежна ад таго, ствараюцца яны на дзяржаўных ці прыватных кінастудыях, робяць тыя ж самыя людзі, што колькі гадоў таму здымалі стужкі аб савецкіх партызанах і працоўным гераізме, а ў час перабудовы перакінуліся на савецкую ж «чарнуху». Дык ці знойдзецца ў іхняй свядомасці месца для Беларусі? А калі і знойдзецца, дык ці не стануць новыя фільмы працягам чыста савецкай традыцыі рускамоўнай беларускай культуры? Бо ж, менавіта, да яе належыць пераважная большасць фільмаў, знятых за 70 гадоў існавання беларускага кінематографа, — ад «Кастуся Каліноўскага» — фільма, які кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання ператварыў у героя рэвалюцыйнай меладрамы, і «Белых рос», натхнёных творчасцю расійскіх «деревенщиков», да мноства аднолькава няўдалых экранізацый твораў Караткевіча. Сёння працягам гэтай традыцыі стаў адзіны мастацкі фільм беларускай тэматыкі аб Казіміры Лышчынскім — агучаны па-расійску і названы пацаркоўнаславянску «Аз воздам».

Тыя ж, хто не захапляецца слабымі гістарычнымі фільмамі і няўдалымі экранізацыямі класікаў, мусяць задавальняць свой густ гісторыямі інтымнага жыцця расійскіх артыстак, расійскіх імператараў, расійскіх салдат ці вывучаюць з экрана далікатную «русскую душу» і яе happy end.

Прычына, якая стварыла падобную сітуацыю, вядомая. Гэта — падпарадкаванне беларускага кіно чужой культуры, неад'емнай часткай якой яно стала ці не ад пачатку свайго існавання. Відаць, таму беларускія рэжысёры ахвотна і здымаюць фільмы аб Расіі і для Расіі.

Прыклады падобнага служэння чужой культуры ёсць. Вядомасць сучаснаму амерыканскаму кінематографу надаюць імёны амерыканскіх яўрэяў братоў Цукераў, амерыканскага венгра Формана, амерыканскага карэйца Ву ды іншых неамерыканскіх амерыканцаў. Яны, дарэчы, масаваму гледачу вядомыя значна лепш, чым імёны беларускіх «майстроў кіно», якія здымаюць пасрэдныя фільмы для суседняй краіны на мове суседняга народа, такія, як створаны Юрыем Елховым на ТАА «Тайм-аўт. LTD», фільм, названы проста і патрыятычна — «Прости нас, мачеха-Россия!» І, адпаведна, прызнанне падобных стужкі сустракаюць толькі там. Пацвярджэннем гэтаму служыць тое, што ўсе шэсць узнагарод, атрыманых на працягу 1994 года беларускімі фільмамі, маюць расійскае паходжанне. Вось іх спіс:

*Маскоўскі фестываль фільмаў для дзяцей і юнацтва, узнагароджаны фільм А. і Ул.Пяткевічаў;*

*Санкт-Пецярбург — фестываль «Послание к человеку» — прызы атрымалі стужкі С.Пятроўскага, М.Носава і Ю.Азаронка;*

*на міжнародным фестывалі славянскіх фільмаў у Цірaспалі першая і другая ўзнагароды дасталіся фільмам М.Пташука і А.Ленкі.*

Тут трэба нагадаць, што прызы з ваяўнічымі назвамі «Золотой Витязь» ды «Серебряный Витязь» нашы кінематаграфісты атрымалі ў сталіцы так званай «Приднестровской молдавской республики» — дзяржаўнага ўтварэння, сфармаванага пракамуністычнымі расійскамоўнымі сепаратыстамі на тэрыторыі, адарванай імі ад Малдовы ў выніку справакаванага збройнага канфлікту і не прызнанай ніводным урадам свету. Як бачна, найбольш даспадобы малдаўскім расійцам было менавіта «новае» беларускае кіно. Назва ж фільма, які атрымаў галоўную ўзнагароду мастацка-палітычнага шоу ў Цірaспалі, — «Кооператив «Политбюро» яскрава сведчыць аб тым, на якую публіку ён разлічаны.

Можна шмат гаварыць аб папулярнасці беларускіх фільмаў ці аб іх недасканаласці. Але час сказаць: з правінцыяльнага савецкага беларускі кінематограф ператварыўся ў правінцыяльна расійскі, так і не стаўшы нацыянальным.

**Сёння вызначыць агульную вартасць беларускага кіно нескладана**. Дастаткова зайсці ў любы з мноства салонаў відэапракату і запытаць, ці ёсць у яго рэпертуары беларускія фільмы? Адказ, упэўнены, будзе адназначны: няма. Бо ні 70 гадоў існавання беларускага кіно, ні народжаны не так даўно «Белвідэацэнтр» не стварылі стужак, якія маглі б канкураваць з амерыканскім, еўрапейскім ці нават расійскім кінематографам. Прыватны пракат, які абсалютна дакладна адлюстроўвае попыт на кінапрадукцыю, не прапануе гледачам ні «Красные листья», ні «Наш бронепоезд», роўна як і ніякі іншы твор беларускіх кінематаграфістаў — лаўрэатаў і нелаўрэатаў дзяржаўных прэмій, заслужаных і незаслужаных дзеячаў культуры. Гэта яскрава сведчыць: беларускага нацыянальнага кіно не існуе, а першы (ці апошні?) чалавек, які б мог яго стварыць, стаў на пачатку стагоддзя адным з заснавальнікаў сусветна вядомай амерыканскай кінастудыі «Мэтро Голдвін Маер».

А можа якраз гэта — невысокі творчы патэнцыял — і стала прычынай таго становішча, што склалася ў кіно краіны? Што застаецца рабіць рэжысёру, які ўсведамляе: слава Алана Паркера (фільм якога «Мур» разышоўся па ўсім свеце ў 12 мільёнах легальных і нявызначанай колькасці нелегальных відэакопій) яму не пагражае. Не стане ён ні другім Берталучы, ні новым Спілбергам, ні яшчэ адным Канчалоўскім, які з савецкага кінарэжысёра ператварыўся ў амерыканскага. Ну а калі гэта разумееш, дык трэба рабіць нешта на патрэбу іншай, не сусветнай аўдыторыі. Якой? Ну канешне ж, найбольшай, а значыць — савецкай, ці, дакладней, расійскамоўнай.

**Бываюць, зразумела, і выключэнні**. Яшчэ ў савецкі час «Беларусьфільм» іншым разам здымаў беларускамоўныя фільмы для паказу ў межах БССР. Але хто запомніў іх назвы? Павялічылася колькасць беларускамоўных фільмаў, знятых апошнім часам. Але ні «Крыж міласэрнасці», ні «Маці ўрагану», ні іншыя не выклікалі захаплення публікі, бо паўстанне іх было, хутчэй, выкананнем, як і ў старыя часы, сацыяльнага заказу, а не рахункам сумлення іх стваральнікаў, чарговым этапам іхняй творчай дзейнасці на глебе нацыянальнай культуры. Спробы стварэння беларускіх па сваёй сутнасці фільмаў так і засталіся спробамі. Бо хаця змест і мова гэтых стужак дапамаглі ім з'явіцца на экранах краю, але з-за сваіх мастацкіх асаблівасцей яны не выклікалі колькі-небудзь значнай цікаўнасці ні тут, ні тым больш за мяжой. А адсутнасць сталых дзяржаўных заказаў і дзяржаўнага ж фінансавання зноў жа схіліла нашых кінамайстроў ад рэверансаў у бок беларушчыны вярнуцца да выканання запросаў адзінай публікі, якая іх разумее, — расійскамоўнага насельніцтва ўсіх былых савецкіх рэспублік.

Так і атрымалася, што аб існаванні нашай краіны гледачам усяго свету нагадвае не агітацыйная стужка Корш-Сабліна «Искатели счастья», а зняты паводле аналагічнага сюжэту на 57 гадоў пазней поўнаметражны мультфільм Дона Блата «Файвэл і новы свет». Адзін з герояў гэтай стужкі мае імя «Вялікая Мыш з Мінску» і з'яўляецца на экране, упрыгожаны гэтым жа самым надпісам — «Giant Mouse of Minsk», а астатнія героі фільма — расійскія эмігранты ў Злучаных Штатах Амерыкі — з захапленнем глядзяць на яго — сваю надзею і ратунак.

Ёсць розныя шляхі да стварэння нацыянальнага кінематографа. Першы — моўная і тэматычная абмежаванасць, якая можа спрыяць папулярнасці фільмаў у краіне, але робіць іх незразумелымі людзям іншых культур. Такімі фільмамі сталі знятая ў Індыі «Маці-Індыя» — стужка, неверагодна папулярная ў сябе на радзіме і практычна невядомая ў свеце, ды «Свет уэйна» — фільм, настолькі шчыльна звязаны з культурай амерыканскага андэграўнда, што робіць яго, нягледзячы на папулярнасць дома, амаль незразумелым гледачам з іншых краін.

Існуе і другі шлях, прапанаваны еўрапейскімі і амерыканскімі майстрамі. Творы гэтага накірунку — такія, як французскі фільм «Эмануэль» ці амерыканскі «Знесены ветрам», — з'явы французскай і амерыканскай культур — сталі зразумелымі і цікавымі дзесяткам мільёнаў людзей ва ўсім свеце.

Якім шляхам пойдзе беларускае кіно?

**У.ПАНАДА.**

## ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў ЛІСТАПАДЗЕ

**1 лістапада.** Споўнілася 65 гадоў з часу заснавання (лістапад 1929) Інстытута мовазнаўства АН Беларусі.

**2 лістапада.** Дзень Памяці.

**5 лістапада.** 40 гадоў з дня адкрыцця Рэчыцкага краязнаўчага музея (заснаваны ў 1952 г.).

**6 лістапада.** 110 гадоў з дня нараджэння Я.Ю.Лёсіка (1884—1940), беларускага мовазнаўца і пісьменніка, публіцыста, акадэміка АН Беларусі.

**7 лістапада.** 180 гадоў з дня нараджэння С.П.Мікуцкага (1814—1891), мовазнаўца і фалькларыста, даследчыка беларускіх гаворак, збіральніка фальклору.

75 гадоў з дня адкрыцця Гомельскага абласнога краязнаўчага музея.

**8 лістапада.** 210 гадоў з дня нараджэння Т.Нарбута (1784—1864), гісторыка і археолага, даследчыка гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, аўтара праекта Бабруйскай крэпасці, удзельніка яе будаўніцтва.

**10 лістапада.** 245 гадоў з дня нараджэння М.Радзівіла (1749—1800), польскага і беларускага драматурга, кампазітара, лібрэтыста нясвіжскага тэатра Радзівілаў.

**12 лістапада.** Сёлета спаўняецца 425 гадоў з часу (1569), калі ў Брэсцкай друкарні выйшла «Гісторыя пра жыццё і слаўныя справы Юрыя Кастрыёта».

**14 лістапада.** Сёлета спаўняецца 375 гадоў з часу (1619), калі ў еўінскай (цяпер г.Вэвіс у Літве) брацкай друкарні выйшла «Граматыка славянская» М.Сматрыцкага.

**18 лістапада.** 70 гадоў з дня ўтварэння Віцебскай філіі літаб'яднання «Маладняк» (існавала да лістапада 1928 г.).

**27 лістапада.** 70 гадоў з часу выхаду (лістапад 1924 г.) першага нумара часопіса «Беларуская работніца і сялянка» (з 1931 г. «Работніца і калгасніца Беларусі», з 1946 г. — «Работніца і сялянка»).

**30 лістапада.** Сёлета спаўняецца 185 гадоў з дня нараджэння М.І.Гарбачэўскага (1809—1880), беларускага архівіста і мовазнаўца.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



**У СУСВЕЦЕ**

# МОВА, МОВА...

Саамы жывуць на Крайняй Поўначы ў межах чатырох дзяржаў — Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі і Расеі. Самі яны лічаць, што іх каля 100 000, але літаратурныя крыніцы даюць меншую лічбу — крыху болей за 50 000 асоб. Займаецца гэты невялічкі народ традыцыйнай для Поўначы гаспадаркай — аленегадоўляй. (Дарэчы, пад час чарнобыльскай катастрофы іхнія пашы аказаліся моцна забруджанымі радыянуклідамі.)

Гадоў трыццаць таму маленькім саамцам забаранілі карыстацца ў школах сваёй роднай мовай (не дзеля найбарджджэйшага збудавання камунізму, а дзеля найлепшага далучэння да «сусветнай культуры»). Што з гэтага атрымалася, здагадацца няцяжка.

Зараз урады паўночных краін спахапіліся і перамянілі сваё стаўленне да лінгвістычных праблем саамаў на супрацьлеглае. Прыняты Акт аб мове саамаў, які ўсяляк заахвочвае вывучэнне і карыстанне мовай аўтахтоннае насельніцтва крайняй поўначы Скандынавіі.

Арганізавана сетка курсаў па вывучэнню і навучанню мове саміх саамаў, як дзяцей, гэтак і дарослых.

Першы плён ужо ёсць — упершыню за ўвесь час свайго існавання чатыры маладыя саамы трымалі афіцыйныя іспыты па роднай мове.

Вядома, лічба сціплая, але пацвярджае агульную тэндэнцыю разумення важнасці захавання і развіцця кожнай мовы любога народа.

У гэтым, увогуле шчаслівым выпадку, кідаюцца ў вочы імперыялістычныя прэтэнзіі большых этнасаў манапалізаваць сабою ўвесь культурны інфармацыйны масіў свету, стварыць уражанне, што без іхняга пасрэдніцтва меншыя этнасы застануцца ў цемры і дзікунстве.

Як быццам бы тыя ж самыя саамы не ствараюць сваю дзялянку сусветнай культуры і цывілізацыі. І ўвогуле: што такое цывілізацыя і культура з гледзішча канца XX стагоддзя? І ці вышэй агрэсіўная спажывецкая разбуральная культура еўрапейскага ўзору за экалагічна мэтазгодную цывілізацыю Поўначы і Тропікаў?

* * *

Выступаючы ў Інстытуце Сервантэса — гэтая ўстанова апякуецца пашырэннем і падтрымкай іспанскай мовы ў свеце, — іспанскі кароль Хуан Карлас параўнаў іспанскую мову з дзіцем, якое трэба гадаваць і песціць у маленстве, але, пасталеўшы, яно будзе надзейнай апорай грамадства і нацыі.

* * *

Чарговы Кангрэс пісьменнікаў-індыхеністаў, тых, хто піша на мовах карэнных жыхароў Амерыкі, прайшоў у Мексіцы. На кангрэсе адзначалася павелічэнне цікавасці да творчасці пісьменнікаў аўтахтонаў з боку чытачоў, гучалі заклікі ліквідаваць культурную несіметрычнасць у амерыканскіх краінах.

Адзначалася таксама, што традыцыйнай тэмай творчасці літаратараў з'яўляецца глыбокая повязь прыроды і чалавека, іхняя магічная сувязь. Былі ўручаны прэміі за лепшыя творы 1993 года.

**По матэрыялах Бі-бі-сі і Знешняга Іспанскага радыё.**

**ГІСТОРЫЯ АЙЧЫНЫ — ВАЙСКОЎЦАМ**

*Працягваем друкаваць раздзелы з новага вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў «Гісторыя Беларусі».*

*У.А.ПАЛУЯН*

# БЕЛАРУСЫ: ЖЫЦЦЁ Ў СКЛАДЗЕ ПОЛЬШЧЫ

## *(Заходняя Беларусь у 1921—1939 гг.)*

У выніку польска-савецкай вайны 1919—1920 гг. Беларусь была разарвана на дзве часткі. Паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. заходнія землі (40 працэнтаў тэрыторыі) далучаны да Польскай дзяржавы. Тут быў уведзены прыняты ў Польшчы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел — ваяводствы, паветы, гміны. Тэрыторыя Віленскага, Навагрудскага, Палескага і большай часткі Беластоцкага ваяводстваў, населеная пераважна беларусамі, атрымала ў грамадскасці назву Заходняя Беларусь. Плошча яе складала больш за 112 тыс. кв. км, а насельніцтва ў 1931 г. — 4,6 млн. чалавек.

Эканамічная палітыка правячых колаў была накіравана на тое, каб пакінуць «усходнія крэсы» (ускраіны) у становішчы аграрна-сыравіннага прыдатку больш развітых прамысловых раёнаў карэннай Польшчы. Польскія і замежныя капіталісты выкачвалі багацці Заходняй Беларусі, асуджаючы гэты край на галечу.

Заходняя Беларусь была адсталай ускраінай Польскай Рэспублікі. У 1931 г. 85 працэнтаў насельніцтва жыло ў вёсцы і толькі 15 — у горадзе, 79 працэнтаў было занята сельскай гаспадаркай. Складаючы 23 працэнты тэрыторыі і 11 — насельніцтва краіны, Віленскае, Навагрудскае і Палескае ваяводствы ў 1937 г. мелі толькі 2,8 працэнта прадпрыемстваў і 1,9 працэнта рабочых. З іх пераважную большасць складалі дробныя прадпрыемствы, занятыя перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі і мясцовай сыравіны.

Працоўныя па 10—12 гадзін, рабочыя Заходняй Беларусі атрымлівалі ў 1,2—2 разы менш, чым у цэнтральных і заходніх раёнах Польшчы. Больш трэці заробку паглынала кватэрная плата. Многія рабочыя жылі ў паўразбураных хібарах, сырых падвалах, халодных бараках. Большасць не атрымлівала аплачанага адпачынку, не была застрахавана. Расло беспрацоўе.

Асабліва ў цяжкім стане апынулася эканоміка Заходняй Беларусі ў перыяд эканамічнага крызісу 1929—1933 гг. Колькасць рабочых на сярэдніх і буйных прадпрыемствах з 1928 па 1933 г. скарацілася напалавіну. Толькі зарэгістраваных беспрацоўных у 1931 г. налічвалася 16,1 тыс. Не вытрымліваючы канкурэнцыі, рамеснікі бяднелі і разараліся, папаўняючы рады гарадскога пралетарыяту.

У сельскай гаспадарцы пануючае становішча займалі памешчыкі. У 1931 г. у Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах налічвалася каля 4,5 тыс. уладальнікаў з плошчай маёнткаў больш за 50 га, якія валодалі 3,2 млн. га зямлі. У той жа час 610 тыс. сялянскіх гаспадарак мелі 4320 тыс. га зямлі.

Зямельная рэформа праводзілася на карысць памешчыкаў, сельскіх багацеяў. Урад выкарыстоўваў яе для насаджэння на «крэсах» польскіх вайсковых каланістаў-асаднікаў, якія служылі апорай улады. Да 1930 г. у заходнебеларускіх ваяводствах іх пасялілася 4640. Астатнюю зямлю, што ішла на мэты рэформы, куплялі пераважна капіталісты, чыноўнікі, заможныя сяляне. Сельскагаспадарчыя рабочыя, большасць дробных арандатараў, што працавалі на гэтай зямлі, страцілі сродкі існавання.

Ва ўмовах малазямелля сялян сельская гаспадарка не магла нармальна развівацца. Сярэдні ўраджай збожжавых у сялянскіх гаспадарках складаў каля 7 ц з гектара. Агульныя неўраджаі паўтараліся праз кожныя 2—3 гады. І тады галадалі дзесяткі тысяч беднякоў. Сельская гаспадарка знаходзілася ў стане хранічнага застою.

Няўхільным было збядненне большай часткі сялян. У 1939 г. беднякі складалі каля 75 працэнтаў, серадзнякі — 20 працэнтаў, заможныя — 5 працэнтаў. У 1927 г. каля трэці сялян не мелі коней, шостая частка — кароў. Сяляне вымушаны былі за мізэрную плату ісці на падзённую работу да памешчыкаў. Галеча вымушала іх залазіць у даўгі, за якія прыходзілася адпрацоўваць. У пошуках працы і хлеба яны ехалі ў краіны Заходняй Еўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі. З 1925 па 1938 г. з трох ваяводстваў выехалі на пастаяннае жыхарства ў іншыя краіны 78,1 тыс. чалавек.

У пачатку 30-х гадоў падаткі былі ў 3—4 разы вышэйшыя, чым да сусветнай вайны. Пры спагнанні іх улады часта звярталіся да прымусу, канфіскацыі маёмасці.

Сельскагаспадарчыя рабочыя знаходзіліся ў поўнай залежнасці ад памешчыкаў. Працягласць рабочага дня нярэдка дасягала 16 гадзін. Страціўшы працу, большасць іх не рэгістравалася як беспрацоўныя і ніякай дапамогі не атрымоўвала.

Жыццёвы ўзровень насельніцтва Заходняй Беларусі быў значна ніжэйшы, чым у цэнтральных і заходніх раёнах Польшчы, і ніжэйшы, чым да рэвалюцыі. Сяляне насілі даматканую адзежу і лапці, дзялілі запалкі на часткі, рабілі дамашнюю работу пры газоўцы.

Насуперак умовам Рыжскага дагавора і трактата аб нацыянальных меншасцях, падпісанага Польшчай у 1919 г., польскія ўлады ўстанавілі жорсткі нацыянальны прыгнёт беларускага насельніцтва. Яны імкнуліся выкараніць нацыянальную свядомасць і апалячыць беларусаў. З першых гадоў захопу краю польскія ўлады пачалі закрываць беларускія школы, якіх тут у 1918—1919 гг. было каля 350. А ў 1925 г. засталіся толькі чатыры беларускія школы. У 1927—1928 гг. пад націскам нацыянальна-вызваленчага руху было адкрыта 29 беларускіх і 49 змешаных польска-беларускіх школ. У Вільні, Радашковічах, Клецку, Навагрудку існавалі беларускія гімназіі (аб іх, дарэчы, «Наша слова» пастаянна друкуе матэрыялы ў сваёй сталай рубрыцы «Старыя беларускія гімназіі»). Але на пачатку 30-х гадоў тры гімназіі былі закрыты, а Віленская ператворана ў філіял польскай. У 1938/39 навучальным годзе ў Заходняй Беларусі ўжо не было ніводнай беларускай школы. Каля 13 працэнтаў дзяцей працоўных школьнага ўзросту зусім не вучыліся. У выніку сярод іх непісьменныя ў 1931 г. складалі амаль палавіну.

Высокая плата за навучанне, беднасць і перашкоды з боку ўлад рэзка абмяжоўвалі доступ у сярэднія школы. А вышэйшыя навучальныя ўстановы, па сутнасці, былі зусім не для іх. Культурнае жыццё беларусаў усяляк абмяжоўвалася. Не было беларускіх тэатраў, закрываліся нешматлікія клубы, бібліятэкі, хаты-чытальні, створаныя намаганнямі грамадскасці. Прагрэсіўныя газеты канфіскаваліся і закрываліся, рэдактараў садзілі ў турму.

Абвешчаныя Канстытуцыяй 1921 г. дэмакратычныя свабоды груба парушаліся. Паліцыя сачыла і арыштоўвала ўсіх, хто падазраваўся ў «падрыўной дзейнасці». У 1931 г. у турмах Польшчы знаходзілася больш за 10 тыс. палітзняволеных, з іх 2—3 тыс. на Заходняй Беларусі. У сейм праходзілі прадстаўнікі буржуазных і дробнабуржуазных партый і толькі нязначная колькасць ад левых нацыянальных арганізацый. На выбарах у 1935 і 1938 гг. не было выбрана ніводнага беларуса, ніводнага прадстаўніка левых сіл.

Усё гэта абвастрала сацыяльныя супярэчнасці. Палітычная сістэма, устаноўленая ў Польшчы і дапоўненая на захопленых заходнебеларускіх землях шэрагам мер падаўлення і прымусу, не дазваляла прыгнечаным народам дабіцца дэмакратычнымі метадамі сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення. Заставаўся адзіны шлях масавай вызваленчай барацьбы, выкарыстання легальных і нелегальных метадаў работы.

Народ Заходняй Беларусі на працягу 20 год вёў барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з БССР. Асноўнымі сіламі яе была палітычна актыўная частка рабочага класа і працоўная сялянства. У нацыянальна-вызваленчым руху шырока ўдзельнічала беларуская інтэлігенцыя.

У першай палове 20-х гадоў вызваленчы рух у Заходняй Беларусі яшчэ не дасягнуў значных памераў. Арганізацыі кампартыі толькі ствараліся і не мелі значнага ўплыву. У гэты час большасць насельніцтва верыла ў лозунгі дробнабуржуазных партый. Гэта адбілася і на выніках выбараў у сейм у лістападзе 1922 г.: прайшлі пераважна прадстаўнікі беларускіх нацыянальных і польскіх дэмакратычных партый. Беларускія дэпутаты (пасды) утварылі ў сейме фракцыю — Беларускі пасольскі клуб. Яны выступалі з крытыкай нацыянальнай палітыкі польскага ўрада. Але, праводзячы хісцкую палітыку ад апазіцыі да згоды з уладамі, клуб хутка пачаў траціць уплыў на масы.

Ужо ў 1921—1924 гг. баставалі рабочыя Гродна, Брэста, Пінска і іншых гарадоў. У гэты час Кампартыя Польшчы, пераа-дольваючы недаацэнку сялянскага і нацыянальнага пытанняў, пашырала ўплыў у горадзе і на вёсцы. Гэтаму садзейнічала пастанова яе другога з'езда (верасень—кастрычнік 1923 г.), у якой сцвярджалася «права ўкраінскіх і беларускіх рабочых і сялян на вызваленне з-пад прыгнёту памешчыцка-капіталістычнай Польшчы і далучэнне да Савецкай Украіны і Беларусі».

У кастрычніку 1923 г. першая канферэнцыя камуністычных арганізацый краю, якая адбылася ў Вільні, абвясціла стварэнне Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі як састаўной часткі Кампартыі Польшчы. КПЗБ распаўсюджвала сваю дзейнасць на Віленскае, Навагрудскае, Палескае і большую частку Беластоцкага ваяводстваў. З утварэннем КПЗБ вызваленчы рух у Заходняй Беларусі становіцца больш арганізаваны і радыкальны. У цяжкую пару падполля кампартыя наладзіла выданне нелегальных газет.

Адначасова фарміраваўся і камсамол, які пашыраў уплыў на рабочую і сялянскую моладзь. У 1924 г. камсамольскія арганізацыі аб'ядналіся ў Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі.

У 1921—1923 гг. пэўным уплывам сярод сялян Заходняй Беларусі карысталася Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, на чале якой сталі Ф.Грыб, П.Бадунова, Г.Мамонька, А.Цьвікевіч, В.Ластоўскі і інш. Яна патрабавала правядзення рэформы з падзелам памешчыцкай зямлі паміж сялянамі, дэмакратычных свабод, нацыянальных правоў, утварэння незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі, злучанай з Літвой у адну дзяржаву. У адносінах да польскага ўрада беларускія эсэры знаходзіліся ў парламенцкай апазіцыі.

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (узначальвалі А.Луцкевіч, Б.Тарашкевіч, С.Рак-Міхайлоўскі, В.Іваноўскі, Ф.Ярэміч) абапіралася пераважна на нацыянальна настроеную частку беларускай інтэлігенцыі. Побач з задачай развіцця беларускай культуры яна патрабавала адкрыцця беларускіх школ, культурна-нацыянальнай аўтаноміі, стварэння незалежнай Беларускай дэмакратычнай рэспублікі, якая ахоплівала ўсе землі, заселеныя ў большасці беларусамі. Дабіваццa гэтых мэт БСДП імкнулася парламенцкімі метадамі.

Найбольш кансерватыўнай з палітычных партый была Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД), на чале якой сталі каталіцкія ксяндзы А.Станкевіч, В.Гадлеўскі і інш. БХД заяўляла, што мае сваёй мэтай стварыць лад на аснове хрысціянскай і дэмакратычнай справядлівасці, выступала за эвалюцыйны шлях развіцця грамадства. Але палітычнае развіццё гэтых партый ішло складана.

У пачатку 1924 г. спыніла сваю дзейнасць БСДП. А ў чэрвені заявіла аб роспуску Партыя беларускіх эсэраў, прызнаўшы БССР і праведзеныя ў ёй пераўтварэнні. Рэвалюцыйна настроеныя члены яе ўступілі ў КПЗБ.

*(Працяг будзе.)*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАСЫ́ЛЬНЫ** (той, хто пасылаецца з якім-н. даручэннем) *Перад заходам сонца Сільцоў праз пасыльнага выклікаў Арсеня да сябе* (Хадкевіч). *Раніцаю пасыльны штаба прывёў групу дзяўчат да зямлянкі камбрыга і загадаў чакаць* (Шчарбатаў), **НА́РАЧНЫ** (той, хто пасланы са спешным, пераважна афіцыйным, службовым даручэннем) *[Дзяншчык:] – Ад генерала нарачны прыбыў* (М.Ткачоў). *Рыгор Хмара адразу зразумеў: калі выклікаў яго Мурашоў з нарачным у такі гарачы час, значыць, справа сур'ёзная* (Лукша), **КУР'Е́Р** (асоба, якая пасылаецца куды-н. для перадачы якіх-н. афіцыйных папер, дакументаў і пад.) – *Абавязак кур'ера быць аператыўным, загады выконваць бездакорна* (Васілевіч). *Кур'ер са штаба злучэння прымчаў загад аб тэрміновым перамяшчэнні* (Кулакоўскі), **ГАНЕ́Ц** (асоба, якая пасылаецца з тэрміновым паведамленнем, данясеннем і пад., пераважна ў арміі) – *Навошта я так спатрэбілася табе, Якімка, што ганцоў за мной пасылаеш? – запытала Катэр, падыходзячы да Якіма* (Машара). *23 лютага 1944 года са штаба брыгады прыбыў ганец, перадаў камандзіру атрада загад* (Васілеўская). – *Параўнайце:* **Кур'ер, Пасланец.**

**ПАСЫ́ПАЦЬ** (насыпаць што-н. на паверхню чаго-н.) *Малады выняў мяса, пачысціў яго, пасыпаў соллю і са смакам пачаў есці* (Маўр), **ПРЫСЫ́ПАЦЬ** (пасыпаць што-н. для таго, каб пакрыць яго паверхню чым-н. сыпкім) *[Галіна] спачатку прамыла струп, пасля прысыпала і паклала пластыр* (Пташнікаў). *Скрынкі з патронамі прыхавала пад выварацінем. Прысыпала ігліцай, апалым лісцем* (Асіпенка), **ПРЫПАРУШЫ́ЦЬ** (прысыпаць чым-н. парашкападобным) *Прыпарушыць клумбу апілкамі*, **ПРЫЦЕРУШЫ́ЦЬ** *З недакуркаў, што валяліся ўзбоч шашы, я навылушчваў добрых дзве жмені тытуню – гэта на выпадак, калі за мной уляжа пагоня, дык прысыпаць, прыцерушыць за сабой сляды, збіць у сабак нюх...* (Сачанка). *Незаконченае трыванне:* **Пасыпа́ць, прысыпа́ць, прыпару́шваць, прыцяру́шваць.** – *Параўнайце:* **Прыпа́рушыць.**

**ПАСЯЛІ́ЦЦА** дзе (заняць месца для жылля, жыхарства) *І вось гэты самы Янка Тукала стаяў цяпер каля гумна, дзе пасяліўся на лета Садовіч* (Колас), **УСЯЛІ́ЦЦА** куды *Адзін зруб быў ужо выведзены аж пад кроквы, відаць, чалавек спяшаўся, каб да зімы ўсяліцца ў новую хату* (Краўчанка), **УЕ́ХАЦЬ** куды *Толькі ў мінулым годзе ў новыя кватэры ўехалі 40 тысяч валгаградцаў* («Звязда»), **УЛЕ́ЗЦІ** куды размоўнае *Перабраліся ў зямлянку і жылі ў ёй, пакуль не ўлезлі ў новую хату* (Лужанін), **ЗМЯСЦІ́ЦЦА** дзе (заняць якое-н. памяшканне, месца для жыцця, адпачынку, начлегу і пад.) *Адзін з прыяцеляў прапанаваў яму [прафесару] часова змясціцца з сям'ёй у сваім доме* (Лынькоў), **ПРЫТКНУ́ЦЦА** дзе, разм., пагардлівае (пасяліцца, заняць дзе-н. месца для жылля з-за адсутнасці лепшага месца) *І хацеў дадаць яшчэ, што ён толькі што прыехаў у горад, не паспеў агледзецца, прыткнуўся на цеснай прыватнай кватэры і яму хочацца гэтай часовай адзіноты, хоць бы і ў чужой хаце...* (Хадановіч), **ПРЫЛЯ́ПІЦЦА** дзе, разм., пагард. *Кузьма Чорны, рэдактар газеты «Звязда» Міхаіл Астапенка і я таксама прыляпіліся ў невялікім нумары «Татарстана»* (Бялевіч). – *Незакончанае трыванне:* **Пася́ляцца, уся́ляцца, уязджа́ць, ула́зіць, змяшча́цца, прытыка́цца, прыле́пліваться і прыляпля́цца.** – *Пар.* **Асесці, Сяліцца.**

**ПАСЯЛІ́ЦЬ** дзе і куды (даць каму-н. памяшканне, месца для жылля) – *Людзей у нас поўна. Але вы не бойцеся, я вас пасялю ўдвух у трэці пакой. Мы яго на ўсякі выпадак трымаем у рэзерве* (Сабаленка), **УСЯЛІ́ЦЬ** куды (даць якое-н. памяшканне для жыцця) *Некалькі дзён назад у наш трынаццаты пакой паабяцалі ўсяліць яшчэ аднаго лейтэнанта* (Пінчук), **ЗМЯСЦІ́ЦЬ** дзе і куды (даць памяшканне, месца для жылля, начлегу, адпачынку і пад.) *Маці Васілька змясцілі ў хляве. Гэта быў даўгі цагляны будынак* (Маўр), **ПАМЯСЦІ́ЦЬ** дзе і куды *У тую ноч Людміла доўга не магла заснуць. На гарышчы, дзе яе памясцілі, усё яшчэ было душна* (Асіпенка). – *Незак.:* **Пасяля́ць, усяля́ць, змяшча́ць, памяшча́ць.** – *Пар.* **Сяліць.**

– **Пасяле́нне, усяле́нне, змяшчэ́нне, памяшчэ́нне.**

**ПАТАЙНЫ́** (размешчаны ці зроблены такім чынам, што яго не відаць, не заўважыць або цяжка знайсці таму, хто не ведае пра яго існаванне) *У мястэчку камендант задумаў зрабіць сабе ў агародзе бункер з патайным ходам* (Карпюк). *[Вырай] дастае з патайной кішэні паліто некалькі пісем* (Навуменка). *Кожную раніцу хлопчык акуратна збіраў свае кніжкі і сшыткі і ішоў на цэлы дзень куды-небудзь у патайное месца* (Колас), **ПАТАЕ́МНЫ** *У такім разе атрад пераходзіў на новае месца, а ў старым лагеры пакідаў або вопытных праваднікоў, або ў патаемным месцы запіску, у якой паведамлялася, дзе цяпер атрад* (Няхай). *У лесе Коля ўлезе на любое дрэва, ён умее падрабіць голас кожнай птушкі, умее знайсці самае патаемнае гняздзечка* (Васілевіч), **ТА́ЙНЫ** (такі, пра наяўнасць, існаванне якога вядома аднаму ці нямногім, якія наўмысна хаваюць яго ад іншых) *Вазьмі яго [карабін] і дбайна, Як будзе цішыня, Схавай у месцы тайным Да заўтрашняга дня* (Глебка). *Сцежкі тайныя знае, Свецяць крыніцы, чабор. А назад сувязная Не вярнулася ў бор* (Маляўка), **САКРЭ́ТНЫ** *Пазяхнуў – і непрыкметна Лезе лапа ў сейф сакрэтны* (Лужанін). *Увечары Тамара, калі палілася ў грубцы, дастала з свайго куфрачка з сакрэтным запорам усё, што магло так ці іначай нагадваць Юрку* (Я.Ермаловіч).

**ПАТРАБАВА́ЛЬНЫ** (настойлівы ў сваіх патрабаваннях да каго-, чаго-н.) *Жадаючы з першага дня паказаць сябе патрабавальным начальнікам, ён [Сцяпан] сурова спытаў, чаму памяшканне дагэтуль не атынкавана* (Шамякін). *Шафранскага я толькі адзін раз бачыў у вочы, на выпускным вечары, але чуў, што гэта чалавек нязломны, суровы і патрабавальны, што ён вельмі не любіць хлусоў і манюк* (Сабаленка), **СТРО́ГІ** узмацняльнае *А Парамон Пісанец разгублены стаяў і не ведаў, куды цяпер падацца. Ці ў рэдакцыю, дзе яго чакае строгі рэдактар і спаткае Хвёдка з пытаннем: «Ну што, прынёс нарасць?», ці дадому?* (Грамовіч). *У вашай асобе спадзяюся бачыць суддзю строгага і справядлівага* (Крапіва). *Маці крыху строгая, такі ў яе ўжо характар* (Пятроў).

Леанід БУРАК,
*заслужаны работнік народнай адукацыі Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар*

**УДАКЛАДНІМ**

## ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫХ СКАЗАХ

### л) Складаназалежныя сказы з даданымі выніковымі часткамі

Даданая выніковая частка звязваецца з галоўнай часткай сказа ў асноўным злучнікамі **то, дык**, перад якімі ставіцца коска: *Мы ехалі паўз Дзве Хаты, то там іх ужо не дзве, а чатыры* (Кузьма Чорны). *Учора прайшоў добры дождж, дык за ноч, відаць, грыбоў нарасло* (Змітрок Бядуля).

### м) Складаназалежныя сказы з даданымі часткамі меры і ступені

Даданыя часткі меры і ступені звязваюцца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа пры дапамозе злучнікаў **што, як, быццам, колькі, ажно** і інш., перад якімі ставіцца коска: *Навапіла столькі снегу, што з канём загрузнуць можна* (М.Лынькоў). *Ужо сабралася столькі людзей, як ніколі не было каля млына* (П.Броўка). *Мароз так ціснe, ажно дух займае* (Змітрок Бядуля).

### н) Складаназалежныя сказы з даданымі часткамі спосабу дзеяння

Даданыя часткі спосабу дзеяння звязваюцца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа пры дапамозе злучнікаў **што, як, як бы, быццам, нібы, каб, ажно, толькі**, перад якімі ставіцца коска: *Ты гаворыш так, што цябе і зразумець цяжка* (Якуб Колас). *Яна старалася трымацца так, як бы нічога не было* (П.Броўка). *Яны спаткаліся так, быццам бы ведалі адзін аднаго з маленства* (Кузьма Чорны). *Свішчуць птушкі над балотам, аж гамоніць лес і гай* (Якуб Колас).

**Заўвага.** Непадзельныя выразы, якія не з'яўляюцца даданай часткай спосабу дзеяння, коскай не аддзяляюцца, напр.: *Рабі як трэба* (Кузьма Чорны). *Усё было параскідана як папала* (Якуб Колас). *Яны сустрэліся як ні ў чым не бывала* (Б.Мікуліч).

### о) Складаназалежныя сказы з даданымі параўнальнымі і супастаўляльнымі часткамі

1. Даданыя параўнальныя і супастаўляльныя часткі звязваюцца з галоўнай часткай складаназалежнага сказа злучнікамі **чым, як, як бы, нібы, быццам** і інш. і аддзяляюцца ад яе пры дапамозе коскі: *Хутчэй перасохнуць крыніцы ды рэчкі, чым клятву парушу сваю* (А.Бялевіч). *Глядзелі з вокнаў агенькі мне ўслед з трывогай шчырай, нібы ў далёкі і цяжкі я падымаўся вырай* (А.Куляшоў). *Радасна бліснулі вочы, быццам іх сонца прамень запаліў* (Максім Танк).

2. Паміж даданай і галоўнай часткамі можа ставіцца працяжнік, калі параўнанне або супастаўленне ў складаназалежным сказе падкрэслена з асаблівай сілай: *Гваздзічка белая рассыпана вакол – нібы махрыстыя сняжынкі ляглі на тонкія націнкі* (Якуб Колас). *Шлях пад нагой развіваецца – як бы хто косіць тканіны сувой* (М.Лужанін). *Мільгануў некалькі разоў агеньчык – быццам нехта падаваў сігнал трывогі* (Х.Шынклер).

Пры аслабленай сувязі, большай паўзе і самастойнасці прэдыкатыўных частак можа ставіцца коска з працяжнікам, асабліва калі даданая або галоўная часткі развітыя і маюць свае знакі прыпынку: *Наляцеў калючы ўраган, біў у твар, хвастаў з налёту ў вочы, – быццам апалчылася пурга ў саюзе з чарнатою ночы* (А.Звонак). *Качаны таўшчыні небывалай серабрацца, як месяца шар, – быццам месяцаў тысяча ўпала з вышыні ў драбіны мажар* (А.Вялюгін).

3. Калі даданыя і галоўныя часткі складаназалежнага сказа звязаны злучнікамі **калі — то, як — так, чым — чым**, або складанымі злучнікамі **ў той час як, тады як**, то паміж гэтымі часткамі заўсёды ставіцца коска: *Калі нядаўна дзявочая песня валодала наваколлем, дык цяпер яе замяніў баян* (Т.Хадкевіч). *Як цяжка там было нам плакаць, так лёгка зараз тут смяяцца* (У.Хадыка). *Чым ніжэй апускалася асенняе сонца, тым гусцей спавіваў туман лесавыя сенажаці* (Змітрок Бядуля). *На полі бушавала завіруха, у той час як у лесе было шмат зацішней* (Кузьма Чорны).

Здзіслаў СІЦЬКО

**ЧЫТАЕМ КАЗКІ**

## ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

*Як перачытаем усе «рускія» казкі, мы можам смела сцвярджаць, што паводле маляўнічасці і прыгажосці апавядання беларускія казкі не маюць сабе роўных.*

**С.Саўчанка, украінскі літаратуразнавец**

Мінуў той час, калі фальклор беларусаў уяўляўся не годным нат свайго народа, не кажучы ўжо пра чалавецтва. Зачараваныя нашымі казкамі, паданнямі, легендамі, загадкамі, песнямі даследнікі і аматары фальклору сабралі незлічоную колькасць паэтычных і празаічных твораў. І ўжо ў наш час фальклярысты выдалі каля паўсотні тамоў славутай серыі БНТ (Беларускай народнай творчасці).

Багацце нашай народнай вусна-паэтычнай творчасці высока ацэнена ў свеце. Ды сама важна, што гэтую спадчыну паступова вяртаюць народу. Прыкладам, беларускія абрадавыя песні ўжо часта гучаць па радыё, з іх складаюць свой рэпертуар шматлікія аматарскія і прафесійныя фальклорныя гурты. Спакваля і нашыя казкі выходзяць у людзі. Што, праўда, з тысяч казак, створаных нашым таленавітым народам, выбраны дзеля забавы дзетак самыя простыя. На жаль, самыя цікавыя нашыя казкі яшчэ не прывабілі ні навукоўцаў, ні педагогаў, таму што ўяўляюцца вельмі дзіўнымі, незразумелымі. Іх незвычайныя сюжэты спрабуюць тлумачыць толькі фантазіяй вычвораў-казачнікаў.

Зацікавіць настаўнікаў, маладое пакаленне дзяржавы шматтысячагадовымі духоўнымі здабыткамі нашага таленавітага народа, абудзіць жаданне навучыцца чытаць казкі — і ёсць мэта гэтых нарысаў.

Нашыя казкі — не толькі цудоўныя літаратурныя творы, але і той вырай, дзе сабраны скарбы духоўнай культуры беларусаў. У іх словамі ды вобразамі зашыфраваны дзеі нашага народа. У папярэдніх частках нарыса распавядалася пра спробу прачытаць адну з сама цікавых нашых казак пра жывёл — казку «Каза Дарота». Мне ўяўляецца, што ў ёй захавалася згадка пра звычаі і норавы нашых прапрапрашчураў. Незвычайны спосаб пахавання — «пад печ падкінуў», — які ўчыніў Дзед з казкі «Каза Дарота», невядомы беларускім археолагам. Але іх замежныя калегі выявілі такія магілы — у будынках, пад печчу — на раскапаных паселішчах так званай Хасунскай культуры, што існавала ў Месапатаміі (сучасны Ірак) за 7—6 тысячагоддзяў да Хрыстовага нараджэння (далей — Х.н.). У казках пра ваўка таксама адлюстраваны працяглы перыяд вельмі старажытнай нашай гісторыі: ад пары пастухоўства да хрысціянскіх часоў.

Не менш цікавыя і чарадзейныя казкі, у якіх поруч з героем дзейнічае і конь.

### ІВАН І КУСЮЛЬКА

Як то было даўней ды сям-там і цяпер бывае, у сялянскіх сем'ях дзеці даглядаюць скаціну. Хлопчыкі звычайна больш хіліліся да коней, а часам і пачыналі гадаваць сабе вернага сябра ад жарабятка. Так і ў казцы «Іван і кусюлька» Іванька апекаваўся кусюлькай. *«І дужа яе добра даглядаў. Прыходзіць ён раз так са школы, заходзіць да кусюлькі, а яна па шчыкалаткі ў крыві стаіць. Ён тады пытае ў яе:*

*— Кося мая мілая, кося любімая, чаго ты так нудзішся?*

*— А як жа мне не нудзіцца: у твае мачыхі сёння вялікая бяседа: хоча яна цябе страціць. Тады хто мяне даглядаць будзе?*

*— Як яна мяне страціць хоча?*

*— Нагрэла яна табе чаю. Як увойдзеш ты ў хату, дык табе яго і пададуць. А ты не пі, а стань піць ды быццам незнарок і разлі!»*

Некалькі разоў спрабавала мачыха страціць пасынка, але кусюлька падказвала Іваньку, як ратавацца. Аж нарэшце пра гэта дазналася мачыха. Яна загадала зарэзаць мудрую жывёліну. Тады Іванька вырашыў уцячы з дому разам з кусюлькай. Далей у казцы апавядаецца пра незвычайныя Іванькавы прыгоды. Спачатку кося паказала свайму гаспадару крыніцу з вадой, што дала Іваньку моц і сілу. А тады *«яна і панесла яго вышэй лесу. Ехалі яны, ехалі і прыехалі ў царскі горад.*

*— Ну, — кажа кусюлька, — цяпер мяне пусці, а калі трэба буду, выйдзі ды толькі свісні — я і прыбягу!»*

Як бачым, сюжэт гэтай нашай казкі адрозніваецца ад сюжэтаў падобных казак іншых народаў, дзе звычайна наймалодшаму, дурнейшаму брату аддаюць горшага каня. Тут, верагодна, праявілася псіхалагічная асаблівасць нашага народа. Але перш задумаемся, чаму менавіта конь абраны за чарадзейнага героя казкі?

Навукоўцы мяркуюць, што культ каня пачаўся ў той час, калі ўсе народы, што цяпер уваходзяць у так званую індаеўрапейскую сям'ю, былі адзіным племем. І жылі яны ў стэпавых прасторах на поўнач ад Чорнага мора. Менавіта тут, у міжрэччы Дняпра і Дона, у слаях сярэднястогаўскай археалагічнай культуры, што бытавала ў другой палавіне IV тысячагоддзя да Х.н., знойдзены косці свойскага каня. Там жа былі выяўлены і часткі старадаўняй аброці, што сведчыць пра засваенне носьбітамі гэтай культуры язды вярхом на конях.

Ці не з таго часу прыжыліся ў нас матэрыяльныя выявы культа каня: разьблёныя конскія галовы на вільчаках стрэхаў, што, відаць, лічылася магутным абярогам, які засцерагаў жытло ад злых моцаў. Вершнік на кані стаў уяўляцца вялікай сілай, бо сапраўды конь мог «панесці» ваяра значна далей. Менавіта конь паспрыяў першым індаеўрапейцам засяліць значныя тэрыторыі.

У казцы «Іван і кусюлька» таксама адлюстравалася гэтая вяха: «ехалі яны, ехалі і прыехалі ў царскі горад». І менавіта воін з дапамогай каня змог перамагчы змея, ўратаваць царскіх дачок, папярэдне выканаўшы чарадзейны кусюльчын загад: «Улазь мне ў левае вуха, а ў правае вылазь!» А пра тое, як у гэтай казцы перадаецца старадаўняя арыйская традыцыя гіпамансіі — гэта значыць абранне цара з дапамогай каня, мы паразважаем у наступным нумары.

*(Працяг будзе.)*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014




# ЗАЙЗДРОСНЫ ЛЁС ВЯЛІКАГА ПРАЦАЎНІКА

## (Да 70-годдзя прафесара І.Я.Лепешава)

*Іван Якаўлевіч Лепешаў пачаў займацца навукова-даследчай працай у пачатку 70-х гадоў. Ён вывучаў фразеалогію, праблемы культуры мовы і маўлення, сінтаксісу, стылістыкі нашай мовы, спалучаючы навуку з выкладчыцкай дзейнасцю. І за гэтыя гады Іван Якаўлевіч напісаў 15 кніг і дзве сотні артыкулаў ды рэцэнзій.*

23 кастрычніка споўнілася 70 гадоў вядомаму беларускаму мовазнаўцу выдатніку народнай асветы Беларусі, доктару філалагічных навук, прафесару Івану Якаўлевічу Лепешаву.

І.Лепешаў нарадзіўся ў вёсцы Іскозы Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці ў сялянскай сям'і. Юнацтва азмрочыла Другая сусветная вайна. Прыйшлося маладому воіну прайсці вялікі вызваляльны шлях аж да сцен Берліна. Пра храбрасць і адвагу на вайне Івана Лепешава сведчаць ягоныя ўзнагароды: ордэн Айчыннай вайны 2-ой ступені, медалі «За адвагу», «За баявыя заслугі», «За ўзяцце Кёнігсберга» і мн. іншыя.

Пасля вайны І.Лепешаў на выдатна скончыў Аршанскі настаўніцкі інстытут (1948 г.) і завочна з адзнакай — Гродзенскі педагагічны інстытут (1959 г.). Доўгі час, аж да 1971 года працаваў настаўнікам у Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці.

З 1971 года і па сённяшні дзень Іван Якаўлевіч Лепешаў працуе выкладчыкам Гродзенскага педагагічнага інстытута (цяпер — Гродзенскі універсітэт).

Неверагодна, але факт, што толькі амаль у 50 гадоў І.Лепешаў пачаў займацца навукай і абагнаў па колькасці навуковых прац і фундаментальных кніг па мовазнаўству практычна ўсіх мовазнаўцаў Беларусі, спецыялістаў яго ўзросту, што прыйшлі ў навуку на 20 і больш гадоў раней за яго. Пра гэта сведчаць каля 200 навуковых артыкулаў і рэцэнзій і 15 важкіх кніг. Аб'ём выдадзеных Лепешавым навуковых прац складае 303 улікова-выдавецкія аркушы.

Асноўнай сферай яго навуковых інтарэсаў з'яўляецца фразеалогія, мова мастацкай літаратуры, культура мовы і маўлення, сінтаксічныя і фразеалагічныя нормы і выпадкі іх парушэння ў вуснай і пісьмовай мове.

У 1972 годзе І.Лепешаў абараніў кандыдацкую дысертацыю, затым стаў дацэнтам, а праз 13 гадоў, у 1985 годзе, ён абараніў доктарскую дысертацыю, а ў 1987 годзе стаў прафесарам.

У 1973 годзе ён разам з Н.Гаўрош і Ф.Янкоўскім выдаў першы ў беларускім мовазнаўстве тлумачальны фразеалагічны слоўнік беларускай літаратурнай мовы, у якім змешчана больш як 1330 фразеалагічных адзінак, растлумачаны іх сэнс, паказваецца ўжыванне фразеалагізмаў у маўленні на прыкладах з твораў беларускай мастацкай літаратуры, што ўключаны ў школьную праграму або рэкамендаваны да пазакласнага чытання.

У 1976 годзе І.Лепешаў выдаў кнігу «Фразеалогія ў творах К.Крапівы. Стылістычнае выкарыстанне фразеалагізмаў», у якой паказана майстэрства Кандрата Крапівы ў выкарыстанні ў сваіх мастацкіх творах фразеалагізмаў, раскрыта роля пісьменніка ва ўзбагачэнні і абнаўленні нацыянальнага фразеалагічнага фонду, багацце і разнастайнасць прыёмаў аўтарскага абнаўлення фразеалагізмаў для стварэння адпаведных стылістычных эфектаў.

У 1981 годзе выйшла з друку кніга І.Лепешава «Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора», у якой раскрываецца спецыфіка мовы мастацкай літаратуры, паказваецца, як неабходна аналізаваць разнастайныя «моўныя цяжкасці», што нярэдка сустракаюцца ў мастацкіх тэкстах. У манаграфіі змяшчаецца вялікая ўводная тэарэтычная частка «Мова мастацкага тэксту як аб'ект лінгвістычнага аналізу», дзе падрабязна выкладзены ўсе неабходныя аспекты праблемы лінгвістычнага аналізу мовы мастацкай літаратуры. Далей аўтар паказвае, як трэба аналізаваць такія пытанні, як факты семантычнага характару, мнагазначнасць слова, індывідуальна-аўтарская інтэрпрэтацыя магчымасцей слова, ужыванне слоў з нязвыклым сэнсам або стылістычным адценнем, асаблівасці выкарыстання майстрамі слова ў творах фразеалагізмаў, архаізмаў, гістарызмаў, імёнаў, фактаў, падзей, што патрабуюць рэальна гістарычнага каментарыя і г.д. У кнізе даецца лінгвістычны аналіз такіх мастацкіх твораў, як «Пінская шляхта» В.Дуніна-Марцінкевіча, гутарка «Дзядзька Антон», верш Я.Купалы «Час!», байка К.Крапівы «Дыпламаваны Баран», п'еса гэтага ж пісьменніка «Партызаны», паэма А.Куляшова «Сцяг брыгады» і інш. У канцы кнігі пададзены паказальнік пракаменціраваных твораў ці ўрыўкаў з твораў і прадметны паказальнік.

У гэтым жа 1981 годзе І.Лепешаў выдаў «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў». Гэта была першая спроба ў беларускім мовазнаўстве стварэння слоўніка падобнага тыпу. Аўтар у слоўніку падаў каля 450 фразеалагізмаў, растлумачыў іх сэнс, унутраную форму фразем са страчанай або зацемненай матывіроўкай цяперашняга іх значэння. Другая частка гэтага слоўніка, у якой даецца этымалогія каля 900 устойлівых выразаў беларускай мовы, пабачыла свет у 1993 годзе.

У 1984 годзе І.Лепешаў апублікаваў манаграфію «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы», якая стала асновай яго доктарскай дысертацыі. У гэтай салідной працы даследуецца фразеалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў стылістычным плане. Вызначаюцца крытэрыі функцыянальна-стылявога размежавання фразеалагізмаў. Дадзены аналіз стылявых разрадаў і стылістычных функцый фразеалагічных адзінак. У працы сістэматызуюцца індывідуальна-аўтарскія прыёмы абнаўлення фразеалагізмаў. Разглядаецца праблема фразеалагічнай нормы, матываваных і нематываваных адхіленняў ад яе.

У 1991 годзе выйшаў з друку слоўнік І.Лепешава «З народнай фразеалогіі», дзе пададзена каля 700 фразеалагізмаў, запісаных ім у гаворках Віцебскай і Гродзенскай абласцей. Гэтыя фразеалагізмы не апісваліся ў даведніках ні літаратурнай, ні народна-дыялектнай мовы.

У 1993 годзе ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» выдадзены двухтомны «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» І.Лепешава. Гэта адносна поўны тлумачальны нарматыўны фразеалагічны слоўнік сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у якім лексікаграфічна апісана каля 6000 фразеалагізмаў. Кожная фразема ў слоўніку атрымала семантычную, граматычную і стылістычную характарыстыку. У неабходных выпадках паказаны сінанімічныя і антанімічныя сувязі фразеалагізмаў. Кожны ўстойлівы выраз у слоўніку пацверджаны, як правіла, дзвюма цытатамі з беларускай мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, а ў патрэбных выпадках і большай колькасцю цытат. Гэта фундаментальны слоўнік, адзін з найбольш поўных, вялікіх фразеалагічных слоўнікаў літаратурнай мовы ва ўсім славянскім мовазнаўстве (нагадаем, што «Фразеологический словарь русского языка», падрыхтаваны калектывам аўтараў, змяшчае толькі 4000 фразеалагізмаў). Ухвальна і здзіўляльна тое, што «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» створаны адным чалавекам, прычым паралельна з гэтай фундаментальнай працай выходзілі і рыхтаваліся многія іншыя салідныя слоўнікі, манаграфіі, артыкулы гэтага аўтара.

Працуючы над многімі тэарэтычнымі навуковымі праблемамі і ствараючы фразеалагічныя слоўнікі, І.Лепешаў не забывае пра патрэбы студэнтаў і школьнікаў. Так, ён, акрамя згаданага ў пачатку артыкула «Фразеалагічнага слоўніка для сярэдняй школы», — аўтар вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў і папулярных кніг для школьнай аўдыторыі.

І.Лепешаў — адзін з аўтараў кнігі «Практыкум па беларускай мове» (сааўтары Г.Малажай і К.Панюціч, 1980; 2-е выд. 1988 г.) для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ. У гэтай працы разнастайным пісьмовым і вусным заданням папярэднічаюць кароткія тэарэтычныя звесткі, значная ўвага ўдзяляецца словаўжыванню, культуры маўлення.

І.Лепешаў з'яўляецца аўтарам кнігі «Асновы культуры мовы і стылістыкі. Практыкум» (1988 г.), дзе змяшчаюцца разнастайныя заданні і практыкаванні па камунікатыўных якасцях маўлення: правільнасць, дакладнасць, лагічнасць, чыстата, дарэчнасць, разнастайнасць, выразнасць, даюцца абгрунтаванні некаторых «аслабленых» участкаў маўлення і рэкамендацыі па пытаннях арфаэпічных, акцэнталагічных, словаўтваральных, граматычных, фразеалагічных літаратурных нормаў.

Яшчэ працуючы настаўнікам у школе, І.Лепешаў падрыхтаваў і ў 1969 годзе выдаў кнігу аб'ёмам у 6 улікова-выдавецкіх аркушаў «Літаратурна-краязнаўчы гурток», дзе пададзена многа лексіка-фразеалагічнага матэрыялу.

У 1985 годзе ў выдавецтве «Народная асвета» ў серыі «Скарбы мовы» выйшла кніжка І.Лепешава для школьнікаў «Моўныя самацветы», дзе ў папулярнай форме аўтар расказвае пра асаблівасці фразеалагізмаў, знаёміць з дасціпным і трапным іх выкарыстаннем пісьменнікамі ў сваіх творах. Значная ўвага ў працы ўдзяляецца правілам нарматыўнага ўжывання ўстойлівых выразаў.

Прафесар І.Лепешаў — аўтар такіх праблемных, сур'ёзных артыкулаў па мове, як «Вывучэнне асаблівасцей мясцовай гаворкі і папярэджанне дыялектных памылак», «Фразеалагізм у сказе», «Фразеалагізмы ў камедыі Я.Купалы «Паўлінка», «Прыёмы выкарыстання прыказак у творах К.Крапівы», «Фразеалагічны слоўнік на ўроках мовы і літаратуры», «Фразеалагізм і пунктуацыя», «Фразеалагізм і націск», «Адносна частотнасці фразеалагізмаў у мастацкім творы», «Кантамінацыя фразеалагізмаў», «Аднаўленне ўнутранай формы фразеалагізма як мастацкі прыём», «Фразеалагічныя паўкалькі ў беларускай літаратурнай мове», «Функцыянальна не замацаваныя фразеалагізмы», «Фразеалагічная кантамінацыя і моўная норма», «Унутрыфразеалагічная дэрывацыя», «Лексіка-граматычная спалучальнасць фразеалагізмаў», «Структурныя тыпы фразеалагізмаў», «Некаторыя шляхі ўзнікнення фразеалагізмаў», «Лексічная фразеалагічная зеўгма», «Семантыка фразеалагізма і кантэкст», «Сінанімічныя фразеалагізмы і іх стылістычная дыферэнцыяцыя», «Эліпсаваныя варыянты фразеалагізмаў», «Аб узнікненні фразеалагізмаў на базе прыказак», «Дакладнасць маўлення», «Сінтаксічныя нормы і выпадкі іх парушэнняў», «Парадак слоў і лагічнасць маўлення», «Хто такі ён: Пра ўжыванне займеннікаў» і многія іншыя.

Прафесар разам з кандыдатам філалагічных навук М.Якалцэвіч падрыхтаваў да друку «Слоўнік беларускіх прыказак». Аб'ём яго — 653 машынапісныя старонкі. Гэта не проста збор прыказак мовы ў алфавітным парадку, а тлумачальны слоўнік — даецца тлумачэнне значэння кожнай беларускай прыказкі. Спецыялісты-мовазнаўцы, пісьменнікі, журналісты, настаўнікі і студэнты з радасцю сустрэнуць выхад у свет так патрэбнага першага тлумачальнага слоўніка прыказак нашай мовы.

Напісаць і выдаць за два дзесяткі гадоў 15 кніг, сярод іх такія фундаментальныя працы, як двухтомны «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы», двухтомны «Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў», манаграфія «Праблемы фразеалагічнай стылістыкі і фразеалагічнай нормы», кніга «Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора» (падобныя тэмы, напрыклад, у расійскім мовазнаўстве, былі пад сілу толькі цэлым калектывам), а таксама падрыхтаваць яшчэ каля 200 артыкулаў і рэцэнзій і сумяшчаючы ўсё гэта з напружанай выкладчыцкай працай у вышэйшай навучальнай установе, — гэта навуковы подзвіг. Зробленае І.Лепешавым у навуцы ўражвае спецыялістаў, настаўнікаў, выдаўцоў, працаўнікоў культуры.

Так, зайздросны лёс у прафесара І.Лепешава, якому паспрыяла вялікая працавітасць, фанатызм і самаахвярнасць у сваёй прафесіі, творчая таленавітасць, мэтанакіраванасць і любоў да роднага слова.

Пажадаем дарагому юбіляру моцнага здароўя, шчасця, новых поспехаў у галіне мовазнаўчай навукі і ў выкладчыцкай працы.

**Мікалай КРЫЎКО,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Інстытута мовазнаўства**
**імя Якуба Коласа**
**Акадэміі навук Беларусі.**

***БЕЛАРУСКАЯ ЛАЦІНКА***

# КАБ НЕ ЗГУБІЦЦА Ў СВЕЦЕ

Беларускі лінгвістычны універсітэт наладзіў «круглы стол» «Перадача беларускіх тапонімаў і антрапонімаў у пашпартах». Дарэчы, супрацоўнікі МУС Беларусі паказалі іх прысутным. Кінулася ў вочы англійскае, відаць, слова, адштампаванае друкарскай машынай вялікімі літарамі пасярэдзіне кожнай старонкі. То, мабыць, не для беларусаў зроблены гэты дакумент?

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, прынамсі, значная частка тых, хто прысутнічаў за «круглым сталом», жадаюць, каб беларускі пашпарт ідэнтыфікаваў іх як грамадзян Беларусі. Пра гэта гаварыў і начальнік упраўлення АВІД Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі спадар Сяргей Стэсік. Ён нагадаў, што ўжо выдалі сотню новых пашпартоў, але цяпер часова прыпынілі выдачу, бо выразна адчуваецца неабходнасць адзінага прынцыпу перадачы беларускіх назваў паселішчаў, імён і прозвішчаў па-англійску. Адну такую сістэму прапанаваў на старонках «Нашага слова» спадар Аляксандр Лукашанец. Першым крытычна разгледзеў яе прафесар лінгвістычнага універсітэта Якаў Міхайлавіч Воўшын. Ён параўнаў яе з сістэмай транслітарацыі кірылічнай азбукі, распрацаванай для ўсходніх славян у Англіі. Розніца вялікая — амаль трэціна знакаў іншыя. Супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа тлумачылі гэтае разыходжанне тым, што ў нас, беларусаў, даўно выпрацавана свая сістэма лацінскіх літараў, ёю карыстаюцца на працягу некалькіх стагоддзяў. І сведчаннем належнай адпаведнасці гэтай сістэмы з'яўляюцца факты выкарыстання менавіта беларускай лацінкі англійскімі і амерыканскімі беларусазнаўцамі. А вось сістэма перадачы гукаў у англійскай мове стварае цяжкасці пры чытанні нават англійскіх прозвішчаў. Дык што казаць пра беларускія?

Так і карцела згадаць вядомы жарт, што ў англійскай мове пішацца Лондан, а чытаецца Ліверпуль. Але спадарыня Алена Таболіч з лінгвістычнага універсітэта, фанетыст — як яна сябе назвала — падрабязна на канкрэтных прыкладах абгрунтавала перавагу лацініцы над англійскай сістэмай транслітарацыі. Прыкладам, прозвішча Фёдараў англічане прачытаюць як Фаёдараў, а імя Андрэй можна прачытаць на тры розныя лады.

Менавіта скажэнне беларускіх, як, зрэшты, і іншых прозвішчаў, праз англійскую транскрыпцыю найчасцей згадвалася за «круглым сталом». Што ж рабіць? Прысутныя не прыйшлі да згоды, якую сістэму транслітарацыі выбраць для выкарыстання ў беларускіх пашпартах. Прапановы былі розныя, але найперш згодна было вырашана, што адпаведны дакумент Савета Міністраў Беларусі, дзе гаворыцца пра пераклад беларускіх назваў і прозвішчаў на англійскую мову, меў на ўвазе менавіта напісанне паводле лацінскага шрыфту. А выбраць адпаведную з дзвюх прапанаваных сістэм транслітарацыі або выпрацаваць нейкую іншую павінна спецыяльная камісія, у склад якой неабходна паклікаць спецыялістаў з Інстытута мовазнаўства, лінгвістычнага універсітэта і сяброў адпаведных камісій Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.

Гэтую складаную задачу цяжка будзе вырашыць яшчэ і таму, што ў напісанні нават беларускіх варыянтаў беларускіх прозвішчаў, як сведчылі выкладчыкі лінгвістычнага універсітэта, якія рэцэнзавалі спісы пададзеных ім з МУС прозвішчаў, ёсць мноства недакладнасцей і памылак. Тлумачыцца гэта выключна звычкай перарабляць беларускія прозвішчы паводле нормаў расійскай мовы. А таму вельмі актуальным уяўляецца выданне поўнага слоўніка беларускіх імёнаў і прозвішчаў.

**З.С.**

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



*СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**

**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**

**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі павольныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**

**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

**Ад рэдакцыі.** Паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым. Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагу і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Дапрацоўка тэксту У.Жыгалкі па просьбе чытачоў працягнута да канца года. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

* * *

*Я не буду пускацца ў разважанні, што трэба і дзе ў якім радку змяніць адно слова на іншае, але нельга, каб гэта ператварылася ў простае словаскладанне. Гімн павінен ісці дзесьці з душы. Увосень 1991 г. сам Вярхоўны Савет зацвердзіў Герб і Сцяг Рэспублікі Беларусь, а не хапала належнага Гімна, у мяне вырваліся дзесьці адтуль, з душы такія радкі:*

Досыць над намі здзекавацца,
Досыць над намі жарты тварыць,
Мы жадаем людзьмі звацца
І будзем, як людзі, жыць!..

*Ведаю, такі Гімн камусьці не даспадобы. Дык для такіх я напісаў наступнае:*

Браткі беларусы,
Станьма на калені,
Будзьма мы хрысціцца
Прад сваім канцом,
А як збярэмся ў сівую вечнасць,
Накрыемся ціха
Каўбасы кальцом.

***Васіль ЯКУНІН.***
*г.Слуцк.*

* * *

*Прапаную:*

1. Мы, беларусы, доўгія (многія) годы
2. К вольнасці нашай шукалі свой шлях.
3. Герб наш «Пагоня» — сімвал свабоды,
4. Кроўю адзначаны белы наш сцяг.
15. Наша павага — мужнай Радзіме.
23. Наша пашана — мілай Радзіме.

***П.ЗІМІЧ.***
*в.Кажан-Гарадок,*
*Лунінецкі р-н, Брэстчына.*

* * *

*Галоўны недахоп тэксту Гімна сп. У.Жыгалкі:*
*а) словы «Белая Русь», «Беларусь», «беларус» па некалькі разоў паўтараюцца, а гэта збядняе тэкст;*
*б) найменне «Белая Русь» — чужое, пакінутае нам нашай большай суседкай пасля 1-га хросту Бацькаўшчыны;*
*в) найменні «Белая Русь» і «Беларусь» адназначныя ў тэксце, таму цяжка здагадацца, для якой краіны напісаны Гімн.*
*І яшчэ. Напісанне Гімна калгасам — прызнанне няздольнасці кожнага з нас. А вось і мой Гімн:*

# ЖЫВЕ ЛІТВА-БЕЛАРУСЬ!

**Маці краіна — наша дзяржава,**
**Нас ты з'яднала дружбаю зноў.**
**Бела-чырвона-белы сцяг славы**
**Велічна ўзняўся наноў.**

**Мы, беларусы, колісь — ліцвіны**
**Доўгім змагарным шляхам ішлі.**
**Выгнаць хапугаў, каб із краіны,**
**Даць дабрачыннасць жыцці.**

**Спадчыну нашу — дзедавы гоні**
**Ў бітвах за праўду Бог ратаваў.**
**Люд акрылёны роднай «Пагоняй»**
**Гонар і волю каваў.**

**Нашых абшараў — цуда прыроды,**
**Мы не дадзім іх ніколі на здзек.**
**Дай жа нам, Божа, шчырае згоды,**
**Моцнай дзяржавы навек!**

***P.S.*** *Гэты Гімн вы таксама не прымеце, бо ў ім ёсць слова «літвіны», што вам не спадабаецца. Я гэтак прадбачу...*
*А слова «подзьвіг» — чужое. Наша слова «ўчынак» (гераічны, працоўны...:). Ну, гэта між іншым. Для «Нашага слова».*

***Цімох ВОСТРЫКАЎ.***
*г.Гомель.*

ЮБІЛЕІ



# У САЛІГОРСКУ ГУЧЫЦЬ БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Некалі Салігорск будавалі ў якасці ўзорнага горада інтэрнацыяналістаў: прыезджыя з Расіі трохі звысаку ставіліся да тутэйшага карэннага насельніцтва і ягонай мовы. Але вось мінулі дзесяцігоддзі, і горад паступова пачаў вызваляцца ад адчурэння імперскасці, усё ўпэўненей загучала тут беларуская мова, прыхільнікі якой на чале з настаўніцай Марыяй Мацюкевіч урэшце аб'ядналіся ў даволі аўтарытэтную суполку ТБМ. Менавіта па яе ініцыятыве ды пры матэрыяльнай падтрымцы салігорскіх прадпрымальнікаў у сярэдзіне кастрычніка тут праведзены Дні беларускай мовы, прыўрочаныя 80-гадоваму юбілею таленавітага паэта з няпростым лёсам Лявона Случчаніна, які цяпер жыве ў Салігорску.

У краязнаўчым музеі, школах і бібліятэцы з салігорцамі сустракаліся госці з Менска — літаратары і навукоўцы, сябры Рэспубліканскай рады ТБМ. У іх ліку кіраўнік скарынінскага навукова-даследчага цэнтра прафесар Адам Мальдзіс, паэты Сяргей Панізнік і Кастусь Жук, бард Валерый Пазняловіч, літаратуразнаўца Лідзія Савік ды іншыя. Яны ж цёпла прывіталі і юбіляра — Лявона Рамանавіча Случчаніна (Шпакоўскага).

**На здымку:** Лявон Случчанін прымае віншаванні. **Фота Віктара СТАВЕРА.**

*ЧЫТАЛІ?*

# «ХТО НЕ СПІЦЬ — ТЫХ ДА ПРАЦЫ ЗБІРАЙ!»

По традыцыі на адной з першых старонак чарговага — трэцяга ў сёлетнім годзе — нумара гісторыка-публіцыстычнага часопіса «Беларуская мінуўшчына» змешчаны паэтычны твор. Гэтым разам — верш Міхася Чарота «Звон».

*Зазвані моцна, звон, загудзі,*
*Каб пачулі цябе на ўвесь край,*
*Беларуса хутчэй разбудзі,*
*Хоць цяпер яму спаць ты не дай!*

*Кінь саромецца мовы сваёй,*
*Звацца сябе беларусам пачні,*
*Папрацуй над сядзібай сваёй,*
*А пасля з ціхатой адпачні!..*

*Дык звані моцна, звон, і гудзі,*
*Сваім гукам глушы увесь край!*
*Хто шчэ спіць — ты таго разбудзі,*
*Хто не спіць — тых да працы збірай!*

Часопіс сярод падобных выданняў («Спадчыны» і «Беларускага гістарычнага часопіса») пачынае займаць сваё сталае месца. Менавіта ён усё больш яскрава асвятляе тыя клопаты, што дзеюцца па ўшанаванню гістарычнай памяці на Беларусі. З цікавасцю пазнаёмяцца чытачы з выступленнем галоўнага спецыяліста па музеях Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь Сяргея Маслоўскага «Люстэрка мінулага». Аўтар артыкула ставіць выразнае пытанне: «Скарбы і калекцыі, назапашаныя Радзівіламі ў Нясвіжы, братамі Тышкевічамі, Храптовічамі, Сапегам, Тызенгаўзам і іншымі славутымі родамі беларускіх магнатаў, уяўлялі сабой каштоўныя скарбонкі гісторыі і культуры Беларусі і розных народаў свету. Музейныя ўтварэнні існавалі пры епархіях у Магілёве, Гародні, Менску, Гомелі, Віцебску.

Дзе ж тыя скарбы, які іх лёс? Яны ў пераважнай большасці разрабаваныя і знаходзяцца ў Расіі, Польшчы, Германіі, за акіянам... На жаль, тыя сведкі мінуўшчыны, што знаходзіліся ў складзе калекцый і скарбаў, цалкам страчаны для нас. Каму ж з гэтага выгада? Вядома, усім тым, хто не любіць зямлю, на якой жыве, імкнецца даказаць адсутнасць глыбокіх каранёў у цэлага народа. Маўляў, гэта тыя ж славяне, а пра беларусаў навошта весці гаворку?..»

Безумоўна, з цікавасцю азнаёмяцца чытачы са змешчаным у раздзеле «Радавод» нарысам Уладзіміра Канановіча «Клецкія Радзівілы». Артыкул багата ілюстраваны выявамі прадстаўнікоў славутага роду. Будзем спадзявацца, што радаводы вядомых нашых прашчураў будуць прадметам традыцыйнага асвятлення на старонках «Беларускай мінуўшчыны».

Сярод дакументаў, якія прыадкрываюцца для шырокага кола чытачоў, — «Рэзалюцыя па дакладу аб беларусізацыі ў 2-й Беларускай дывізіі». Матэрыял узнаўляе акалічнасці беларусізацыі ў адным з воінскіх злучэнняў Чырвонай Арміі. Вось бы прачыталі гэтую архіўную знаходку цяперашнія арганізатары выхаваўчай работы ў войску. Як вядома, сёння Беларусь мае ўласныя ўзброеныя сілы, але ці ідуць там працэсы беларусізацыі — загадка.

Па традыцыі ў трэцім нумары «Беларускай мінуўшчыны» падаецца мноства ілюстрацый. І ў прыватнасці, пад рубрыкай «Гарады і вёскі» — каляровыя слайды Аляксандра Лабады, прысвечаныя славутым Жыровіцам. Да месца і лаканічны тэкст, што суправаджае ілюстрацыі (аўтар Алесь Соніч).

Вельмі змястоўны матэрыял маецца ў этнаграфічным раздзеле часопіса — артыкул Вольгі Фадзеевай і Марыі Віннікавай «Беларуская намітка». Доўгі, ручніковага тыпу кавалак даматканай палатніны з узорна тканымі ці нашытымі канцамі і налобнікам — вось што такое намітка. Ужываўся гэты галаўны ўбор у асноўным у канцы XIX—пачатку XX стагоддзя. Але ж якая, аказваецца, багатая гісторыя ўсціплай наміткі, колькі таямніц нават у спосабах павівання яе. Пра ўсё гэта, пра тое, якім было аздабленне намітак у розных рэгіёнах Беларусі, і ідзе размова ў даследаванні В.Фадзеевай і М.Віннікавай.

Аматары ваеннай гісторыі звернуць увагу на артыкул польскіх навукоўцаў Томаша Стэмбаша і Крыштафа Ясевіча «Праз ісціну — да братэрства». У ім новыя факты і меркаванні пра Армію Краёву. Следам падаецца і шэраг дакументаў (публікацыю падрыхтаваў Сяргей Жумар) пра польскае ўзброенае падполле на Беларусі ў 1944—1951 гадах.

Да асобы беларускага асветніка, выдаўца Ільі Фёдаравіча Капіевіча звяртаецца Генадзь Прыбытка (артыкул «На всемирную пользу...»).

**Ганна ЦІТАЎКА.**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014







# Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, «НАША СЛОВА»!

**З 12 кастрычніка па 25 лістапада Міністэрства сувязі нашай краіны і «Саюздрук» праводзяць падпіску на перыядычныя выданні на першае паўгоддзе 1995 года. Падпісная цана на наш штотыднёвік (з улікам паслуг сувязі):**

**на 1 месяц — 175 рублёў,**
**на 3 месяцы — 520 рублёў,**
**на 6 месяцаў — 1040 рублёў.**

***Індэкс 63865. Падпісацца на «Наша слова» можна ў любым паштовым аддзяленні.***


## У СВЕЦЕ КРАСЫ

# ТАНЦЫ СПАРТЫЎНЫЯ, МОВА СПАБОРНІЦТВАЎ — ДЗЯРЖАЎНАЯ

Ужо восьмы год з нязменным поспехам выступае ў рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтвах клуб спартыўных танцаў «Сігма». Зараз у калектыве займаецца каля 80 чалавек, пераважная большасць — школьнікі і студэнты. Параўноўваючы на танцавальнай пляцоўцы першыя — асцярожныя, нясмелыя і няўпэўненыя — крокі і рухі пачаткоўцаў малодшай узроставай групы (8—10 гадоў) з сапраўдным артыстызмам і дасканаласцю таленавітай моладзі клуба, бачым, якіх творчых вяршынь дасягнулі сябры «Сігмы».

Увесь гэты час клубам нязменна паспяхова кіруюць муж і жонка Алена і Аляксандр Казыры. Нядаўна ім пачала дапамагаць вядомы харэограф Ірына Лампе. На апошнім чэмпіянаце Рэспублікі Беларусь па спартыўных танцах, які адбыўся ў нашай сталіцы ў сёлетнім траўні, «Сігма» ўпэўнена першынстравала сярод іншых калектываў. Да слова, усё афармленне гэтага чэмпіяната, як і іншых падобных спаборніцтваў у нашай краіне, зараз робіцца на дзяржаўнай мове.

Некаторыя выхаванцы клуба вызначаюцца асаблівымі здольнасцямі. Сярод іх — Сяргей Васюк, Алена Феакцістава, Вера Прохарава, Алесь Лабуць, Ганна Сіленка, Алесь Гараеў, Дзяніс Каранкевіч, Надзея Хаміцкая, Кацярына Пацеева.



**На здымку**: Ганна Сіленка (СШ № 191) і Алесь Гараеў (СШ № 74).

С.КОСІЧ.




## Д.ДЖАРВІС: ЛЯЧЭННЕ СЯННОЙ ЛІХАМАНКІ

Народная медыцына адрознівае тры тыпы гэтага захворвання: слабы, умерана-моцны, моцны. Метады лячэння як прафілактычныя, так і сімптаматычныя. Калі жаваць мядовыя соты (вечкі) раз у дзень да таго, як чакаецца з'яўленне сяннай ліхаманкі, то чалавек не захварэе або перанясе хваробу ў лёгкай форме.

Пры лёгкай форме захворвання рэкамендуецца жаваць забрус раз у дзень па панядзелках, серадах і пятніцах кожнага тыдня. Гэта папярэдзіць узнікненне насмарку, вы будзеце свабодна дыхаць носам.

Пры адсутнасці мядовых сотаў рэкамендуецца ўжываць за кожнай ядой па дзве лыжачкі рэдкага (цэнтрабежнага) мёду.

Пры ўмерана-моцнай ліхаманцы трэба жаваць мядовыя соты пяць разоў на дзень на працягу двух дзён, а затым тры разы ў дзень аж да знікнення прыкмет захворвання. Эфектыўнае дзеянне аказвае штодзённае жаванне сотаў або прыём дзвюх чайных лыжак рэдкага мёду.

Пры лячэнні ўмерана-моцнай ліхаманкі зроблены наступныя назіранні:

Слязлівасць вачэй спыняецца праз тры мінуты; заложаны нос пачынае свабодна дыхаць праз пяць-шэсць мінут; насмарк праходзіць праз пяць мінут; запаленне ў горле праходзіць праз тры-пяць мінут.

Пры моцнай сяннай ліхаманцы народная медыцына рэкамендуе наступнае:

1. За тры месяцы да таго, як мае пачацца хвароба, прымаць па адной сталовай лыжцы мёду пасля кожнай яды на дэсерт; лепшае лякарства — сотавы мёд, але цэнтрабежны (рэдкі) таксама эфектыўны, яго трэба прымаць па адной сталовай лыжцы на паўшклянкі вады на ноч.

2. За два тыдні да мяркуемага пачатку хваробы прымаць сумесь з дзвюх чайных лыжак мёду і дзвюх чайных лыжак яблычнага воцату на паўшклянкі вады перад снеданнем і на ноч. Такое лячэнне трэба працягваць да таго часу, пакуль не знікнуць сімптомы захворвання.

3. Працягваць прымаць па адной чайнай лыжцы мёду пасля абеду і вячэры на дэсерт, а таксама выпіваць сумесь яблычнага воцату з мёдам перад снеданнем і на ноч.

4. Пры неабходнасці жаваць забрус часцей на працягу дня, каб выключыць магчымасць паяўлення насмарку.

Д.Джарвіс назіраў, што падобнае лячэнне — ужыванне сумесі з яблычнага воцату і мёду і жаванне забрусу (мядовых вечкаў) — дзейнічае больш эфектыўна, чым ін'екцыі ад сянной ліхаманкі.

Пры апісаным спосабе лячэння гэтай хваробы пацыенты толькі часам чхаюць, вадкіх выдзяленняў з носа не бывае.

Людзі, якія здаўна карыстаюцца метадамі народнай медыцыны, ведаюць, што прыкладна на трэці дзень пасля пачатку лячэння чханне спыняецца; вочы праз мінуты тры перастаюць слязіцца; насмарк праходзіць праз пяць-шэсць мінут; можна гладзіць ката, сабаку, карміць курэй, ездзіць конна, спаць пад шарсцяной коўдрай, спаць на пуховай (з пер'я) падушцы; можна працаваць у кветніку, рэзаць амброзію, нюхаць ружы.

Назіранні паказалі, што пры жаванні мядовых сотаў тры-чатыры разы на тыдзень сянная ліхаманка праходзіць праз тры гады.

## І СМЕХ І ГРЭХ

# ПАЧУТАЕ «У ЛЯВОНА»

* * *

У ЗАГС прыйшла пара маладых і заявіла, што хочуць узяць шлюб.

— Ці вы дастаткова падрыхтаваліся да гэтага важнага жыццёвага рашэння? — пытаецца ўраднік.

— О, так, — адказвае нарачоны. — Купілі мы ўжо 10 літраў спірту, 30 бутэлек гарэлкі і столькі ж бутэлек віна.

* * *

Матацыклісту пад колы трапіла кошка.

— Я пакрываю вашы страты, — сказаў хлопец уласніцы.

— А што, ты ўмееш мяўкаць і мышэй лавіць? — недаверліва паглядзела на яго гаспадыня.

* * *

Чэрці прапанавалі анёлам згуляць у футбол.

— Мы згодны, — адказалі анёлы. — Тым больш, што найлепшыя ігракі знаходзяцца ў нас...

— Магчыма, — не сталі спрачацца чэрці, — затое ўсе суддзі — нашы...

* * *

Сцюардэса супакойвае пасажыраў:

— Здарылася невялікая аварыя левага матора. Прашу не хвалявацца. Самалёт рыхтаваў для палёту мой муж, інжынер-механік.

Адзін з пасажыраў трывожным голасам спытаўся:

— Прабачце, а як складаецца вашае сужыццё?

* * *

— На жаль, усе нумары заняты, — гаворыць у прыёмнай гасцініцы. — Свабодны толькі пакой для маладажонаў.

— А чым ён адрозніваецца?

— У ім сапсаваны тэлевізар.

* * *

Жонка была ў санаторыі і пазваніла мужу:

— Як наша кошка?

— Здохла.

— Які жах! Няўжо ты не мог паведаміць мне аб гэтым далікатней! Напрыклад, яна, маўляў, сядзіць на даху. А ўжо потым бы ты сказаў, што яна ўпала і разбілася. Зразумеў?

— Цалкам.

— А як мая мама?

— Сядзіць на даху.

* * *

Міхась да кума:

— Што б вы зрабілі, калі б знайшлі грошы?

— Ну, вядома, уцешыўся б, — адказаў кум.

— Я таксама такой думкі. А вось жонка мая сварыцца: я знайшоў грошы, уцешыўся, выпіў у буфеце, прынёс рэшту жонцы, а яна ўсё роўна лаецца.

— А дзе ж вы іх знайшлі? — пытае кум.

— За абразом, у пакоі.

## ПАРОДЫІ

*Вінцук АСЬЦЮК*

### ЦУД

*Хіба можна не спыніцца*
*Гэта варта паглядзець.*
*..............................*
*Ці паненка то, ці пані?*
*А спадніца да плячэй...*

***Віктар СТРЫЖАК***

Цуд! На пляцы маладзіца
Дзве гадзіны ўжо вішчыць.
Вецер ёй задзёр спадніцу
І не хоча апусціць.

Хіба можна не спыніцца —
Гэта варта паглядзець.
Не глядзіце, хто баіцца
Нечакана звар'яцець.

Я ж спыніўся і кайфую,
Лёсу дзякую за цуд.
Што крычаць наўкол
— не чую,
Багляджу, як п'ю вярмут.

Ці паненка то, ці пані?
Ці замужняя ці не?
Я плюю на ўсе пытанні,
Зразумела ўсё тут мне.

За каршэнь вазьму я вецер
І закіну ў чортаў сад.
Хай там марыць аб кабеце
Гэты д'яблаў супастат!

## БАЙКІ

*Жыўка СТОЙШЫЧ*

### ВОЎК І ЛЮСТЭРКА

Пабачыўшы сябе ў люстэрку, воўк так раззлаваўся, што ўзяў ды трэснуў люстэрка аб камень.

— Не дапушчу, каб мне нагадвалі, што я звер, няхай сабе гэта і люстэрка. Так яно можа сябе з людзьмі паводзіць.

Тым часам на люстраным аскепку угледзеў ён яшчэ большую жывёліну. Гэта быў леў.

— Ну вось, — палагоднеў воўк, — трэба было адразу прызнаць, хто я такі, і ты б засталося цэлае.

### САБАКА І БЛЫХА

Знайшлася на сабаку блыха. Прычым такая, што не адкараскацца — так даймае, ну проста жах! Счапіўся неяк сабака з ваўком. І тады, калі яго, параненага, ужо ўся сіла пакінула, блыха пераскочыла на ваўка. Вызвалены ад блыхі, сабака зноў паверыў у жыццё, падхапіўся і адолеў ваўка.

Можна было радавацца. Пакуль блыха не вярнулася.

### РОЎНАСЦЬ

Плывучы пад вялікім мостам, маленькі параходзік схіліў сваю трубу.

— Нашто? — пытаецца мост, ад смеху трасучыся.

— Не толькі труба, але і дым твой не дастае да мяне.

— Перад правіламі ўсе роўныя, — адказаў яму параходзік.

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы*
*Іван ЧАРОТА.*

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:

Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 45

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 7223 паасобнікі.
Падпісана ў друк 7.11.1994 г. у 15 гадзін.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014